Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

29 лістапада 2002 года

№ 48 (397)
Выходзіць па пятніцах

Панос Тэлетыдзень




# Газавая атака ў Валожыне


Вучаніца 7 "А" класа Валожынскай СШ №2 Алеся Пракаповіч ад газавай атакі пацярпела больш за іншых. Газ ёй трапіў у вочы і ў горла. У чацвер Алеся ўжо не адчувала наступстваў атручвання. Сярод школьных прадметаў найбольш падабаецца матэматыка. Кім хоча стаць, яшчэ не вырашыла.
Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

## У Валожынскай СШ №2 распылілі балончык са слезатачывым газам. 13 школьнікаў шпіталізавалі

**ВАЛОЖЫН. 27 лістапада адразу пасля заканчэння чацвертага ўрока ў фае СШ №2 райцэнтра распылілі балончык са слезатачывым газам.**

Увесь школьны персанал і вучняў (690 чалавек) эвакуіравалі. 13 школьнікаў даставілі ў раённую бальніцу. Загадчыца дзіцячага аддзялення Валожынскай бальніцы **Ірына Вінаградава** расказала, што стан чацвярых дзяцей пры паступленні ацэньваўся як сярэдняй цяжкасці. Дзеці скардзіліся на галаўны боль, пякоту ў горле, галавакружэнне.

У сераду прыехалі спецыялісты з абласной бальніцы, якія агледзелі школьнікаў. У чацвер дзетак глядзелі мясцовыя ўрачы. Стан усіх пацярпелых ацэньваўся як здавальняючы. Дзеці з усмешкай успаміналі газавую атаку. І радаваліся, што прапусцяць кантрольныя работы. Колькі яшчэ школьнікі праляжаць у бальніцы, невядома.

Па падазрэнні ў злачынстве затрымалі 19-гадовага валожынца, які нідзе не вучыцца і не працуе. Цяпер ён знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрымання. Па факце ўзбудзілі крымінальную справу па артыкуле 339 частка 2 Крымінальнага Кодэкса. Следчы Валожынскага РАУС **Валерый Мамонька** паведаміў, што хлопцу "свеціць" ад 1 да 6 гадоў пазбаўлення волі. Матыў злачынства ўстанаўліваецца. У чацвер справу перадалі ў пракуратуру. Падазроны ў школу зайшоў з двума сябрамі, адзін з якіх – непаўналетні. Сябры пакуль праходзяць па справе як сведкі.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Будынак Валожынскай СШ №2. Тут днём у сераду распылілі газавы балончык.
Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

### Навіны рэгіёна

## Юбілей школы

**СМАРГОНЬ.** 23 лістапада СШ №1 адзначыла свой 50-гадовы юбілей. Гэта самая старая школа ў горадзе.

У свой час яе закончылі скульптар Уладзімір Церабун, паэт Уладзімір Някляеў, доктар філасофскіх навук прафесар Мрочка, дырэктар Смаргонскага хлебазавода Іван Касцюшка.

**Ірына РАБУШКА.**

## Забойства ў Балашах

**ВІЛЕЙКА.** У панядзелак у Вілейскі ГРАУС звярнулася жыхарка Ерхаў Вілейскага раёна. У яе прапаў сын А. 1975 года нараджэння. Ён 30 кастрычніка паехаў да сваёй былой жонкі ў Балашы.

У ходзе аператыўна-пошукавых мерапрыемстваў устаноўлена, што хлопца забілі 4 знаёмыя былой жонкі. Потым яны разам з жонкай закапалі ў лесе паблізу Балашоў.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

## Візіт галоўнага памежніка

**СМАРГОНЬ.** На мінулым тыдні ў Смаргонскі памежны атрад прыязджаў камандуючы памежнымі войскамі краіны генерал-лейтэнант **Аляксандр Паўлоўскі.**

На сустрэчы, якая адбылася ў вайсковай часці, Аляксандр Паўлоўскі пазнаёміўся з сітуацыяй на беларуска-літоўскай мяжы, умовамі нясення службы памежнікамі.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Бясплатны білет у лазню

**ВАЛОЖЫН.** Жылкамунгас зрабіў падарунак да Дня інваліда. Заўтра інваліды змогуць бясплатна памыцца ў гарадской лазні. У звычайныя дні білет для інвалідаў каштуе 510 рублёў.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Тры крадзяжы за дзень

**МЯДЗЕЛ.** Жыхар вёскі Баркоўшчына "пашчыраваў" – за адну ноч здзейсніў тры крадзяжы ў Ілаве.

Скраў прадукты харчавання з хлява, са сталовай УП "Ілаўскае", угнаў матацыкл з гаража. Але далёка з'ехаць не ўдалося – затрымалі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Новы сорт хлеба

**МАЛАДЗЕЧНА.** З панядзелка на хлебазаводзе выпускаюць новы сорт хлеба – "Суражскі".

Аналагічны хлеб прывозяць з Мінска, і ён карыстаецца попытам у маладзечанскіх спажыўцоў. З надзеяй задаволіць попыт гараджан хлеб "Суражскі" пачалі пячы ў Маладзечне. Бохан вагой 0,8 кілаграма ў магазіне каштуе 540 рублёў.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Падарунак з Германіі



Намеснік начальніка Маладзечанскага гаррайаддзела Генадзь Самаль прыгнаў з Германіі пажарную машыну. Цяпер у Маладзечне пажары будуць тушыць па нямецкай тэхналогіі.

2-я старонка

## Які хлеб выбраць?



Які сорт хлеба падыходзіць менавіта вам? Чаму трэба кожны дзень есці хлеб? Які хлеб больш карысны – цёплы ці астыўшы? Адказвае спецыяліст Маладзечанскага хлебазавода.

3-я старонка

## Тут прапісаліся музы



У пачатку 60-х гадоў у Маладзечне з'явіўся ансамбль "Спадчына", у будынак абласнога КДБ пераехала музычнае вучылішча, у горад прыязджалі знакамітасці. Такія, як Юрый Нікулін.

5-я старонка

■ ІНТЭРНЭТ

## Першы мядзельскі сайт

**МЯДЗЕЛ. Уладальнікам першага сайта стаў Мікалай Возераў.**

Сайт (www.panax.ru) адрасаваны ўдзельнікам міжнароднага семінара лекараў, які штогод праводзіцца на Мядзельшчыне. Мікалай Возераў з'яўляецца арганізатарам семінара. Сайт прысвечаны семінару, што пройдзе налета.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ЮБІЛЕІ

## Павіншавалі міліцыянера з 80-годдзем

**МЯДЗЕЛ. У аддзеле ўнутраных спраў віншавалі з 80-годдзем Васіля Гладкага.**

Ён з канца 60-х гадоў узначальваў РАУС цягам амаль дзесяць год. Цяпер Васіль Захаравіч жыве ў Маладзечне. Віншавалі ветэрана кіраўніцтва РАУС, маладыя міліцыянеры, былыя калегі, госці з Мінска.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ КОНКУРСЫ

# Перамаглі гімназісты

**МАЛАДЗЕЧНА. 22 лістапада ў цэнтры мастацкай творчасці прайшоў фінал гарадскога эрудыт-лато "Усязнайкі" на тэму "Літаратура і мастацтва беларусаў".**

Праз сіта паўфінальнай гульні прабілася 7 каманд. У склад кожнай уваходзілі па 8 дзесяцікласнікаў. Кожнай камандзе прапанавалася адказаць на 18 пытанняў. На ўсё заданне давалася 9 хвілін. Перамагла каманда беларускай гімназіі, якая правільна адказала на 12 пытанняў. Каманду-пераможцу ўзначальвала педагог-арганізатар **Таццяна Карпіцкая**. Усе каманды атрымалі торт і граматы, а пераможцы – кнігі.

Адначасова праводзіўся і конкурс сярод гледачоў, якім прапанавалася адказаць на такія ж пытанні. Перамагла настаўніца СШ №2 **Наталля Валковіч**, якая набрала 10 балаў.

Пасля заканчэння конкурсу для фіналістаў цэнтр наладзіў забаўляльную праграму і дыскатэку.

**Юрый КАРПІЦКІ.**




Пераможцы гарадскога эрудыт-лато "Усязнайкі" каманда беларускай гімназіі: Алег Бірбінаў, Дзіма Страпко, Раман Воўк, Сяргей Баранаў, Сяргей Габрукoвіч, Насця Шастаковіч, Андрэя Астапенка, Віталь Новікаў. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

■ СУВЯЗІ

## Пажарная машына ў падарунак

**МАЛАДЗЕЧНА. Гаррайаддзел па надзвычайных сітуацыях атрымаў у падарунак пажарную машыну ад нямецкіх калег з горада Эслінгена.**

Машын такога класа ў маладзечанскіх пажарнікаў не было. У аўтамабілі ёсць помпа высокага ціску. Цяпер, каб патушыць пажар у кватэры шматпавярховага дома, не трэба будзе ліць 2 тоны вады, як робіцца цяпер. У выніку вада залівала ўсе кватэры, якія знаходзіліся ніжэй.

Намеснік начальніка Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях Генадзь Самаль гаворыць, што цяпер, каб патушыць пажар у адным пакоі, будзе дастаткова вядра вады. Захаваецца і абстаноўка ў кватэрах, якія знаходзяцца знізу. Таму новую машыну будуць накіроўваць тушыць пажары ў шматпавярхоўках.



Намеснік начальніка Маладзечанскага гаррайаддзела на надзвычайных сітуацыях Генадзь Самаль расказвае аб магчымасцях пажарнай машыны, якую падарылі калегі з нямецкага горада Эслінген.

Але гэта будзе не раней, чым праз некалькі тыдняў, калі аформяць неабходныя дакументы. У Германіі па такой тэхналогіі тушаць пажары даўно. Узрост падарунка – 29 гадоў! Але машына амаль новая – яе прабег складае 14 тысяч кіламетраў. Маладзечанскія пажарныя машыны такую адлегласць пакрываюць за 2 гады працы.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ТЭАТР

## Акцёр, рэжысёр і педагог

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулым сезоне калектыў Мінскага абласнога драматычнага тэатра (МАДТ) прыдбаў яшчэ аднаго добрага сябра – дырэктара рэспубліканскага тэатра юнага гледача Юрыя Вуту.**

Ужо два спектаклі ў пастаноўцы Юрыя Вуты паспяхова ідуць на маладзечанскай сцэне. Ён рыхтуе навагоднее шоу для дзяцей. Упершыню малады рэжысёр "пасягнуў" на маладзечанскую сцэну год назад – па запрашэнні дырэктара МАДТ **Сяргея Вальковіча** Юрый Вута паставіў сваю п'есу "Хочаш вер – хочаш не вер...". Прэм'еру спектакля прымеркавалі якраз да юбілею акцёра абдрамтэатра Барыса Дoніна. Затым была п'еса, прысвечаная юбілею класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа, "На другі дзень Сёмухі" па матывах "Прымакоў" Янкі Купалы.

А творчы шлях гэтага чалавека пачаўся ў дзяцінстве. Па словах Вуты, акцёрам ён стаў у 4 гады, калі на Новы год бацьку – Дзеду Марозу – прачытаў верш дзеля другога падарунка. А рэжысёрам стаў у 7 год, калі расклаў верш Агніі Барто "Ровушка-каровушка" на вобразы і потым чытаў яго на ўсіх магчымых школьных і гарадскіх конкурсах, святах.

"Я веру ў тое, што вышэйшыя сілы ўсё вырашылі за нас", — гаворыць Юрый Вута. І гэта так, бо як жа інакш чалавек, што ў 3-м класе марыў стаць этнографам, паступіў у хіміка-тэхналагічны тэхнікум, змог стаць акцёрам і рэжысёрам. Лёс звёў яго з Уладзімірам Караткевічам, які кіраваў студэнцкім тэатрам педагагічнага інстытута.

Падчас вучобы ў 1982-83 гадах часта здымаўся ў кіно – гэта "Кафедра", "Камбаты", "Палігон", "Вадзіцель аўтобуса", "Закон", "Каменская" і іншыя фільмы. У 1983 годзе як акцёр трапіў у тэатр юнага гледача, першай была роля Пячорына. Адначасова з тэатрам 10 год працаваў на радыё аўтарам і вядучым перадачы "Ч-8". Напісаў 8 п'ес. Восем разоў станавіўся лаўрэатам розных гумарын, конкурсаў, фестываляў гумару. У акцёрскім асяроддзі разам з акцёрам Пятровым слывуць штатнымі віншавальнікамі, бо ніводнае свята не адбываецца без іх.

Чалавек з вялікім запасам энергіі і яшчэ большай любоўю і цягай да мастацтва. Бо вельмі рэдка хто зможа сумяшчаць руцінную працу кіраўніка тэатра са складанай працай педагога ў школе з тэатральным ухілам, з тонкай работай рэжысёра і акцёра. Гэта тлумачыцца толькі тым, што лёс нездарма звязаў гэтага чалавека з мастацтвам, з тэатрам.

**Валянціна ШЫКАВЕЦ.**

■ ПРЭЗЕНТАЦЫІ

## Вецер у полі агонь раздзімае...

**Віктар Шніп – з паэтаў, якія трывала ўвайшлі ў сучасную беларускую паэзію. Зборнікі сваіх вершаў Віктар Шніп выдае саматужна, невялікімі тыражамі. Адзін з іх – "Інквізіцыя" – пабачыў свет у Маладзечне.**

"Інквізіцыя" адкрываецца вершам "За акном Еўропы". Каб "жыць і бачыць далягляд", паэт перакананы, што "трэба выйсці з хат". Як мастак традыцыяналісцкага накірунку, Віктар Шніп досыць прамалінейна выкладае сваю ўласную эстэтычную і грамадзянскую пазіцыю. У размовах пра жанры і форму, мы часам забываемся на неабходнасць яснага вызначэння светапогляду. Жаданне паэта ўбачыць далягляд – выразнае імкненне суаднесці пазіцыі, вызначыцца са шляхам і пэўнымі грамадскімі і сацыяльнымі арыенцірамі.

Віктар Шніп жыве клопатамі сваёй Айчыны, будуе і ўдакладняе ўласнае светабачанне, хаця поруч з ім, аўтарам "Інквізіцыі", – і людзі, і погляды самыя розныя, часам палярныя: "...камусь тут пекла, а камусь тут рай".

Паэт усяляк акрэслівае сваё месца ў жыцці, у мітусні, у навакольным асяроддзі. Але, відавочна, гэтым і дарагі, і зразумелы чытачу. Размовы са святымі, вядомая справа, пазбаўлены свабоды і разняволенасці, а значыць, адарвання ад жыцця зямнога, "грэшнага". Не баючыся прынізіць сябе, аўтар інквізіцыю вяршыць над сабою і толькі. Але ў гэтым самасудзілішчы ён зарабляе права быць з усімі, быць, як усе. Жыццё выткана з супярэчнасцяў. Як і лірычны герой новай кнігі Віктара Шніпа.

*Жыве ўва мне,*
*як смерць мая, Іуда,*
*Што знае час,*
*калі мяне прадаць...*

Насычанае любоўю і нянавісцю жыццё ставіць перад намі самыя розныя выпрабаванні. Паэт стараецца не проста пазнаёміць нас з імі, а прывесці да патрэбы самавызначэння, да неабходнасці зрабіць выбар ці на крайні выпадак задумацца аб ім.

"Інквізіцыя" – кніга, якая з'яўляецца новай прыступкай творцы, які працуе над пастаянным сумяшчэннем жыцця і паэзіі. Клопат нялёгкі. Бываюць на гэтым шляху здабыткі, бываюць і страты.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

■ ПАДАРОЖЖЫ

## Дакрануліся да гісторыі

**МАЛАДЗЕЧНА. У лістападзе навучэнцы дзвюх груп політэхнічнага каледжа праехалі па маршруту Маладзечна-Залессе-Крэва-Баруны-Гальшаны-Жупраны-Смаргонь-Маладзечна.**

Пабачыць было што. Спачатку – помнік Міхалу Клеафасу Агінскаму. А далей акунуліся ў глыбіню XIII стагоддзя: велічнае Крэва, таямнічасць і дасціпнасць Гальшан. А яшчэ – вядомы і невядомы Францішак Багушэвіч...

Як вам расказ пра цэглу, загартаваную ў вадзе, на сонцы, якую скідвалі для праверкі з вышыні. Таму і захаваліся паўтысячагадовыя замкі – не раўня даўгавечнасці сучасных збудаванняў. Уразіла мяне, сялянкага хлопца, спатканне з вёскай у музеі Гальшанскай школы. І хоць хлопцы-навучэнцы пачыналі і заканчвалі падарожжа "сучаснымі" заліхвацкімі песнямі-прыпеўкамі, настрой быў адтуль – з глыбіні часу.

**Сяргей ЦІМОШКА, выкладчык політэхнічнага каледжа.**

 



■ СПАЖЫВЕЦКІЯ КЛОПАТЫ

# Які хлеб выбраць?

**МАЛАДЗЕЧНА. Мясцовы хлебазавод рэгулярна выпускае каля дзесятка найменняў хлеба. Які хлеб выбраць?**

З такім пытаннем мы заходзім у магазін. Прааналізуем перавагі таго ці іншага хлеба з дапамогай начальніка лабараторыі Маладзечанскага хлебазавода **Ганны Грышкевіч.**

– Умоўна хлеб, які мы выпускаем, можна падзяліць на 2 групы – дыябетычны і масавы. Хаця дыябетычны хлеб карысны таксама ўсім, але яго можна і трэба ўжываць для прафілактыкі захворванняў і ўмацавання імунітэту арганізма. Калі масавы хлеб адрозніваецца толькі харчовымі дабаўкамі, а які хлеб выбраць – гэта справа густу, то чым адрозніваецца дыябетычны хлеб, не ўсе ведаюць.

Усяго выпускаецца 6 найменняў дыябетычнага хлеба. Першая група. Хлеб з марской капустай (0,7 кг, цана ў магазіне – 400 рублёў) і хлябец "Неженка" (0,4 кг, 350 рублёў). Карысныя яны тым, што выводзяць з арганізма радыеактыўныя рэчывы, павышаюць імунітэт і умацоўваюць ахоўныя функцыі арганізма. У першую чаргу гэты хлеб рэкамендуецца пры захворванні шчытападобнай залозы і сардэчна-сасудзістай сістэмы.

Другая група. Хлеб "Барысаўскі" дыябетычны (0,7 кг, 390 рублёў) і хлеб бялкова-пшанічны з фруктозай (0,2 кг, 285 рублёў). У гэтай групе хлеба зніжанае ўтрыманне вугляводаў, практычна няма цукру. Такі хлеб карысны хворым на цукровы дыябет, тым, хто атрымаў апёкавую траўму, пры атлусценні, вострым рэўматызме.




**На рынку райспажыўтаварыства хлеб знаходзіць попыт. Аўторак, 26 лістапада.**
Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Трэцяя група. Хлеб дыябетычны "Тонус" (0,3 кг, 235 рублёў) і хлеб заварны з вотруб'ем (0,6 кг, 332 рублі). Гэты хлеб дапамагае ачышчаць кішэчнік, павялічвае ў арганізме ўтрыманне мінеральных рэчываў і вітамінаў. Такі хлеб рэкамендуецца пры захворванні кішэчніка.

Адказы на наіўныя пытанні аб хлебе:

**– Чым адрозніваецца подавы хлеб ад "цаглінкі"?**

– Акрамя формы адрозненні ёсць і ў тэхналогіі. Подавы хлеб захоўваецца ў 1,5 – 2 разы больш за "цаглінку".

**– Які хлеб ужываць лепш: цёплы ці астыўшы?**

– Свежы, але астыўшы. Цёплы хлеб шкодны тым, што ён горш засвойваецца і гэта адбіваецца на абалонцы кішэчніка.

**– Навошта хлебу цэлафанавая ўпакоўка?**

– Упакоўка павялічвае тэрмін годнасці не менш, чым у 1,5 раза, таму ўпакаваны хлеб захоўваецца да 72-х гадзін. Акрамя гэтага, неўпакаваны хлеб да падачы на стол бяруць у рукі некалькі чалавек: работнікі хлебазавода, грузчыкі, прадаўцы. Упакоўка абароніць ваш хлеб ад дотыку чужых рук.

**– Чаму хлеб трэба ўжываць кожны дзень?**

– Таму што толькі ў хлебе ёсць неабходныя для дзейнасці арганізма амінакіслоты.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ СЛУЖБА «01» ПАПЯРЭДЖВАЕ

# Агонь – сябар і агонь – вораг

**МАЛАДЗЕЧНА. За 10 месяцаў у раёне адбылося 146 пажараў, у якіх загінула 5 чалавек.**

Агульныя матэрыяльныя страты ад пажараў – больш за паўмільярда рублёў. Агонь знішчыў 52 будынкі, 5 галоў жывёлы і 541 тону кармоў.

Асноўнай прычынай пажараў з'яўляецца неасцярожнае абыходжанне з агнём – 51 пажар. З-за парушэння правілаў устройства і эксплуатацыі электраабсталявання здарыліся 32 пажары.

Пры карыстанні бытавымі электранагравальнымі прыборамі, печамі і газавымі плітамі трэба быць асцярожнымі. Нельга ўказаныя прыборы пакідаць без нагляду, а таксама адных малых дзяцей у памяшканнях, дзе палящца печкі, уключаныя газавыя пліты. Калі адчуеце пах газу, трэба выключыць газавую пліту, адчыніць форткі для праветрывання памяшкання, выклікаць аварыйную службу гаргазу.

З пачаткам ацяпляльнага перыяду праверце, ці атынкаваны дымаход печы, ці пабелены ён. Ці ёсць перадпаліўны ліст памерамі 50х70 сантыметраў перад топкай. Памятайце, нельга пры распальванні печкі карыстацца гаручымі вадкасцямі, сама топка печкі павінна быць адрамантавана, не мець трэшчын, дзверцы топкі павінны мець надзейную засаўку. Не забывайцеся рэгулярна ачышчаць дымаход ад сажы.

Па ўсіх пытаннях, звязаных з уладкаваннем печаў на любым паліве, можна атрымаць кансультацыю ў дзяржаўным пажарным наглядзе Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях.

**Андрэй РАБЕЦ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 21.11 руб. | 28.11 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1895,00 | **1900,00** |
| Еўра | 1898,79 | **1885,08** |
| Злоты | 483,12 | **477,35** |
| Літ | 549,97 | **546,04** |
| Расійскі рубель | 59,55 | **59,67** |

**«Вуліченыя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1890/1920 | **1900/1920** |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 20.11 | 27.11 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 10980 | **10990** |
| Сасіскі, 1 кг | 4900 | **4900** |
| Селядзец, 1 кг | 2300 | **2500** |
| Рыс, 1 кг | 700 | **700** |
| Грэчка, 1 кг | 800 | **1000** |
| Цукар, 1 кг | 865 | **865** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1380 | **1280** |
| Алей, 1 л | 1550 | **910** |
| Маянэз, 200 г | 400 | **400** |
| Кава «Пеле, 100 г | 1900 | **1900** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 600 | **600** |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 700 | **700** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 580 | **550** |
| Капуста, 1 кг | 400 | **400** |
| Морква, 1 кг | 300 | **500** |
| Лімоны, 1 кг | 2000 | **2000** |
| Апельсіны, 1 кг | 1500 | **1500** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1 л | 700 | **650** |
| Смятана, 1 л | 2000 | **1800** |
| Масла, 1 кг | 4000 | **4000** |
| Тварог, 1 кг | 2200 | **2000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1300 | **1500** |
| Бульба, 1 вядро | 2800 | **2800** |
| Яблыкі, 1 кг | 750 | **750** |

■ ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## Прадукты для інвалідаў

**ВІЛЕЙКА. 23 і 24 лістапада актывісты Вілейскай харугвы імя Якуба Ясінскага рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Аб'яднанне беларускіх скаўтаў» арганізавалі на гандлёвым рынку гуманітарную акцыю "Падзяліся дабрынёй".**

Яны прапаноўвалі пакупнікам і прадпрымальнікам дапамагчы прадуктамі харчавання і прадметамі першай неабходнасці найбольш сацыяльна неабароненым інвалідам. Збор ахвяраванняў прымеркаваны да Дня інвалідаў Рэспублікі Беларусь, які адбудзецца 3 снежня. Апошні дзень правядзення акцыі будзе 30 лістапада.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**



 

■ ПРАВЕРКІ

## Штраф адказным работнікам

**ВАЛОЖЫН. 5 адказных работнікаў дзвюх сельскіх гаспадарак раёна заплацілі штраф у 10 базавых велічынь – 111 тысяч рублёў.**

Такі вынік прынесла праверка, якую зрабіў Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю Мінскай вобласці.

Старшыня калектыўнай гаспадаркі "Труд" **Мікалай Яўсейчык** і галоўны бухгалтар **Вольга Паўлоўская** пацярпелі за тое, што ў чэрвені гаспадарка купіла 2 машыны УАЗ за 5,5 мільёна рублёў. У той час запазычанасць гаспадаркі за электраэнергію складала 8,1 мільёна. Кіраўнік гаспадаркі карыстаўся транспартам для паездкі ў Мінск па пытаннях, не звязаных з вытворчасцю. Таксама ўстанавілі факты прыпісак малака па ферме "Бакачы" ў маі-чэрвені на 7,1 тоны.

Старшыня калгаса "Камсамолец" **Пётр Іванчык**, галоўны бухгалтар **Ніна Гіль** і галоўны аграном **Казімір Капуста** пацярпелі за нерацыянальнае выкарыстанне калгасных сродкаў. У чэрвені гаспадарка купіла аўтамабіль "Волга" ГАЗ-3110 коштам 8,6 мільёна рублёў, у той час як запазычанасць па заработнай плаце складала 22,9 мільёна рублёў. Праверкай устаноўлена, што ў маі на пасадку 24 га бульбы неабгрунтавана спісалі 72 тоны "другога хлеба" на суму 11,4 мільёна рублёў.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ДАІ ІНФАРМУЕ

## Тыдзень бяспекі руху

**МАЛАДЗЕЧНА. У рамках тыдня праравой згоды 29 лістапада пройдзе адзіны Дзень бяспекі дарожнага руху пад дэвізам "Рыхтуй шыны летам".**

У навучальных установах і працоўных калектывах пройдуць прафілактычныя размовы па пяраджванні аварыйнасці і дарожна-транспартнага траўматызму. Шостая прафілактычная акцыя органаў унутраных спраў Міншчыны праходзіць з 25 лістапада па 1 снежня. Яе дэвіз "Небяспека руху – гэта жыццё".

У асенне-зімовы перыяд колькасць дарожна-транспартных здарэнняў залежыць ад практычнай і псіхалагічнай гатоўнасці вадзіцеляў кіраваць аўтатранспартам у далёка няпростых умовах надвор'я і дарожных умовах.

Толькі за выхадныя дні 16-17 лістапада ў Маладзечне і раёне здзейснена 6 дарожна-транспартных здарэнняў. Большасць з іх – наезды на пешаходаў, сутыкненні транспартных сродкаў.

Як і ў папярэднія гады, у аддзеле інфармацыі і грамадскіх сувязяў на пастаяннай аснове працягвае працаваць "тэлефон даверу". Набраўшы нумар у Мінску 254-61-07, вы зможаце паведаміць не толькі аб рабоце Дзяржаўтаінспекцыі ў вашым раёне, але і аб здзейсненых правапарушэннях. Запрашаем вас таксама выказаць сваё меркаванне аб дзейнасці органаў унутраных спраў Мінскай вобласці ў цэлым. Па кожным паведамленні будзе праведзена дэтальная праверка ў рамках дзеючага заканадаўства. Канфідэнцыяльнасць званкоў гарантуецца.

**Уладзімір ЛУКАШЫК, дзяржаўтаінспекцыя.**

■ ПРАБЛЕМА

# Небяспечныя канікулы

**МАЛАДЗЕЧНА. Аднойчы з балкона другога паверха майго знаёмага чысцінца грымнуў даволі-такі моцны выбух і прамільгнула яркая ўспышка святу.**

М. кінуўся да балконных дзвярэй і за імі ўбачыў рэшткі петарды. Бялізна, што вісела на балконе пасля мыцця, пакрылася густымі чорнымі плямамі. М. хуценька выбег на вуліцу, каб надзёрці каму-небудзь вушы. Але каля суседняга дома ўбачыў малых і не вельмі "бамбістаў", убачыў, што з імі разбіраецца другі мужчына, балкон якога таксама стаў мішэнню для юных міні-тэрарыстаў.

Вясной гэтага года ў адчыненую фортку мясцовай сярэдняй школы хтосьці кінуў узгаральнае рэчыва, і знутры выгараў цэлы клас.

А тры гады таму ў летнія канікулы дзіцячыя свавольствы прывялі да вялікага пажару, калі ў дварах аднаго з чысцінскіх кварталаў поўнасцю згарэлі ўсе хлявы разам з маёмасцю і жыўнасцю. Пажар тады палаў на плошчы, прыкладна, 100х200 метраў і чуць не перакінуўся на апошнія ў Чысці драўляныя жылыя пабудовы. І толькі дзякуючы пажарнікам бяду ўдалося прадухіліць.



Калі ў падлеткаў ёсць занятак у вольны час, іх не цягне на свавольствы. Фота IREX/ProMedia

А вось яшчэ адна тэма. На трыбунах школьнага стадыёна можна бачыць дым. Але на гэта раз ад цыгарэт. Паміж лаўкамі стадыёнаых трыбун за вечар скопліваецца нямала бутэлек з-пад піва і віна. Сустракаюцца там і выкарыстаныя шпрыцы. Якая сувязь паміж дымам ад пажараў і дымам ад цыгарэт? Што між імі агульнага і што аб'ядноўвае? Беспрацоўе!

Так было ў Чысці і ў прайшоўшыя, першыя ў гэтым навучальным годзе, канікулы. А ці магло быць інакш? Безумоўна!

У Чысці цудоўны будынак сярэдняй школы як па архітэктурнаму выкананню, так і па ўнутранаму змесце. Але асаблівай гордасцю школы і ўсяго пасёлка з'яўляецца спартыўны комплекс. Тут маецца 7 спартыўных залаў, сярод якіх два гульнявыя, барцоўскі, трэнажорны, танцавальны, аэробікі і сухога плавання. Акрамя таго ў школе ёсць басейн, сучасны стадыён, сауна. Аднак усё гэта ў прайшоўшыя канікулы пуставала.

Пасля заканчэння канікулаў я сустрэўся ў Слуцку з трэнерамі па плаванні з Мінска, Салігорска, Маладзечна, Барысава і Слуцка. На маё пытанне аб тым, ці працавалі іх басейны ў час канікулаў, было недаўменне. А як жа інакш? А намеснік дырэктара Маладзечанскага басейна **Юрый Іваніцкі** дадаў: "Дзякуючы канікулам дзеці атрымалі магчымасць трэніравацца 2 разы ў дзень". Адкрыты быў басейн і для тых школьнікаў, якія ў звычайны час не наведвалі "блакітныя" ўрокі. І ўсе яны ўволю маглі паплёскацца, пагуляць у вадзе, адпачыць. Так было ўсюды, але толькі не ў Чысці...

Калі ж аўтар гэтага матэрыялу захацеў высветліць прычыны соннага стану спартыўнага збудавання ў Чысці, тлумачэнне было такое: канікулы супалі з трыма агульнадзяржаўнымі выхаднымі днямі. Але, па-першае, гэта толькі тры дні, па-другое, выхадныя дні былі для дарослых, для дзяцей жа гэта былі звычайныя канікулы. Ды і дарослыя маглі б выкарыстаць вольны час для здаровага і актыўнага адпачынку. Спартыўная база – гэта прадпрыемства сферы абслугоўвання насельніцтва і перш за ўсё дзяцей і падлеткаў, у чыім бы веданні яна ні знаходзілася. Таксама, як і магазіны, прадпрыемствы грамадскага харчавання, рынкі, вакзалы, дзяжурныя аптэкі... Менавіта тады, калі насельніцтва адпачывае, дзверы спарткомплексу павінныя быць адчыненыя для ўсіх.

**Уладзімір ЗВЕРНІК, дэпутат Чысцінскага Савета.**

■ МУЖЧЫНСКАЯ ТАЙНА

# Адэнома прастаты лечыцца, толькі своечасова звяртайцеся да доктара!

Вось два бакі аднаго медаля: працягласць жыцця ў многіх краінах вырасла, а гэта азначае, што свет старэе літаральна на вачах. Сёння людзі пажылога ўзросту складаюць прыблізна трэць насельніцтва планеты. І сярод іншых хвароб у моцнай паловы чалавецтва ў гэту пару жыцця на першым месцы — адэнома (або дабраякасная гіперплазія) прастаты.

У рэспубліцы з такой паталогіяй жывуць сотні тысяч мужчын, і, як сцвярджаюць спецыялісты, палова з іх мае яўныя клінічныя праяўленні хваробы. Хоць яны і не пагражаюць жыццю мужчыны напрамую, але вельмі пакутлівыя і цяжкія, а горш за ўсё тое, што менталітэт большасці не дазваляе ісці да доктара з такой "сарамлівай" праблемай.

Спачатку, калі паявілачная прастата пачынае сціскаць мочаспускальны канал, у мужчын узнікаюць першыя праблемы там, дзе іх раней не было: ёсць патрэбнасць схадзіць у туалет, але пачуцця поўнага задавальнення гэта не прыносіць. Не пройдзе і паўгадзіны, як арганізм зноў сігналіць – і зноў мачы зусім мала.

Далей — больш і горш. Вядома, як важна для мужчын быць упэўненымі ў сваёй мужчынскай сіле... Тут жа, на жаль, і муж і жонка пачынаюць заўважаць, што палавая патэнцыя мужа спадае. Раздражняльнасць, крыўда на ўвесь свет і нават спробы вярнуць згубленае шляхам прыёму алкаголю або "лёгкіх" наркотыкаў — у такі ланцужок выстройваецца чарада непрыемнасцяў.

Не трэба думаць, што адэнома прастаты — праблема выключна пажылых мужчын. Ужо ў 40 працэнтаў пяцідзесяцігадовых, сексуальна актыўных, моцных і, шчыра скажам, маладых, адзначаецца павелічэнне прастаты. У мужчын такога ўзросту няма або амаль няма ніякіх трывожных "званочкаў" — пачатак захворвання можа выявіць толькі агляд спецыяліста. Своечасова пачатае лячэнне на шмат год затармозіць развіццё хваробы, запозненае часта прыводзіць хворага на аперацыйны стол.

Але нязручнасці і непрыемнасці, звязаныя з развіццём гіперплазіі прастаты, — гэта яшчэ не ўсё. Адэнома прастаты можа даць штуршок да развіцця многіх захворванняў ныраак.

Адэнома прастаты становіцца не толькі псіхалагічнай і медыцынскай праблемай, але і сацыяльнай таксама. Кожны мужчына з адэномай не толькі чыйсьці муж, бацька і дзед, але і спецыяліст, які працуе на заводзе, у НДІ або за рулём аўтамабіля.

Што ж рабіць? Змірыцца з гэтай праблемай? Вядома, не! Мужчыне патрэбна знайсці ў сабе сілы, пераступіць цераз памылковы сорам і звярнуцца за дапамогай да доктара. Да якога? Менавіта да ўролага. І нават на фоне абсалютнага дабрабыту пяцідзесяцігадовы мужчына павінен раз-два на год наведваць уролага з мэтай прафілактыкі.

І літаральна некалькі слоў у гэтай мужчынскай гутарцы, адрасаваных жанчынам. Хто лепш за нас ведае нашых мужоў! І калі паводзіны мужа, які дасягнуў пэўнага ўзросту, пачалі мяняцца, калі ён, заўсёды адкрыты і добразычлівы, замкнуўся ў сабе, чымсьці занепакоены, трывожны і нават прыкметна астыў да вас, не шукайце прычыны "на баку". Прычына — у ім самім. Тактычна, як мы ўмеем, разгаварыце мужа, а давядаўшыся прычыну, пераканайце, што без дапамогі доктара тут не абысціся. Даведайцеся адрас, часы прыёму ўролага (на жаль, гэты спецыяліст ёсць не ў кожнай паліклініцы па месцы жыхарства) і ўручыце мужу талончык для візіту. Тады ў яго сапраўды не будзе магчымасці зацягнуць наведванне доктара яшчэ на тыдзень-другі.

**Таццяна ШАРОВА.**

# Тут прапісаліся музы...

**Самы змрочны ў горадзе будынак, будынак КДБ, страціў уласцівасць наганяць жах на маладзечанцаў. Праз два гады пасля скасавання Маладзечанскай вобласці сюды пераехала з плошчы Свабоды музычнае вучылішча. Пачатак шасцідзесятых быў стартавым часам для многіх, хто праславіў беларускую культуру.**

**На прафесійнай аснове Маладзечна на мастацкай палітры рэспублікі прадстаўлена сёння двума абласнымі тэатрамі – драматычным і лялечным "Батлейка". Іх з'яўленне ў 1990-1991 гг. стала лагічным вынікам росту выканаўчага майстэрства двух самадзейных калектываў – драматычнага пры гарадскім Доме культуры і лялечнага тэатра пры Доме культуры чыгуначнікаў. Ужо ў 70-х гадах цяпер ужо мінулага стагоддзя гэтыя калектывы былі ўдастоены высокіх званняў народных тэатраў.**



Будынак Маладзечанскага музычнага вучылішча. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.



Папулярнасць хору музвучылішча ў 1977 годзе амаль не загубіла музвучылішча ў яго класічным стане. У сталічных мэтраў харавога мастацтва зарадзілася ідэя перапрафіляваць яго ў харавое вучылішча. Дырыжор і педагог Беларускай кансерваторыі В.Роўда (трэці злева) і міністр культуры БССР Ю.Міхневіч(чацверты злева) праводзілі нават спецыяльную нараду ў горадзе. Але гэтую ідэю не падрымалі ні калектыў вучылішча, ні кіраўнікі горада. Фота з архіва Міхаіла ФІЛІСТОВІЧА.



У сямідзесятыя гады адным з цэнтраў культурнага жыцця Маладзечна быў Дом культуры чыгуначнікаў. Калісьці, праязджаючы на сваім аўто на гастролі ў Вільню, тут затрымаўся з-за паломкі машыны Юрый Нікулін. Маладзечанцы не разгубіліся - узялі з вядомага артыста слова, што на зваротным шляху ў Маскву ён абавязкова дасць тут канцэрт. Юрый Нікулін умеў трымаць слова. На здымку - Юрый Нікулін на сцэне Дома культуры чыгуначнікаў у Маладзечне. Фота з архіва Міхаіла ФІЛІСТОВІЧА.

Людзі старэйшага пакалення могуць прыгадаць і пра існаванне самага першага ў горадзе прафесійнага калектыву – Маладзечанскага абласнога ансамбля песні і танца. За свае шматлікія выступленні ў партызанскіх брыгадах і атрадах падчас Вялікай Айчыннай вайны ён здабыў сабе афіцыйную назву партызанскага ансамбля. Штаб-кватэрай ансамбля быў аднапавярховы будынак ў двары цяперашняй кнігарні па вуліцы Прытыцкага, а рэпетыцыі праводзіліся на сцэне ГДК.

Былы партызанскі ансамбль распаўся з ліквідацыяй у 1960 годзе Маладзечанскай вобласці. Яго лепшыя традыцыі панёс далей самадзейны ансамбль песні і танца гарадскога Дома культуры, які з гадамі набыў імя "Спадчына", высокія званні народнага, лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, усесаюзных і міжнародных фестываляў.

У стварэнні і высокіх творчых поспехах гэтага славутага калектыву вялікая асабістая заслуга яго мастацкага кіраўніка і дырыжора **Іосіфа Сушко**, удастоенага ганаровага звання заслужанага работніка культуры Беларусі.

Упершыню я ўбачыў І.Сушко ў якасці кіраўніка самадзейнага калектыву клуба ў гарадскім пасёлку Варапаева ў 1957 годзе. Варапаева на той час было цэнтрам Дунілавіцкага раёна, які ўваходзіў у склад Маладзечанскай вобласці. Ужо тады на мяне зрабіў незабыўнае ўражанне гэты апантаны народнай песняй і музыкай таленавіты чалавек, які, нягледзячы на свой нялёгкі і драматычны жыццёвы лёс (аб гэтым даведаўся значна пазней), літаральна свяціўся радасцю і дабрынёй на сцэне.

Гэтае першае ўражанне з гадамі толькі паглыблялася, калі пашчасціла паездзіць з І.Сушко і яго ансамблем па розных мясцінах і бачыць шчырае задавальненне майстэрствам маладзечанскіх самадзейных артыстаў жыхароў Літвы, Латвіі, касманаўтаў у Зорным гарадку і інш.

Сёння немагчыма ўявіць культурнае жыццё горада без музычнага вучылішча. З чыёйсьці падачы нават у Беларускую энцыклапедыю (т.9, с.551) закралася недакладнасць, што музвучылішча размешчана ў будынку, у якім жыў славуты кампазітар Міхал Клеафас Агінскі. Але гэта не так. Вучылішча адкрылася ў 1958 годзе ў малапрыстасаваным для такой навучальнай установы будынку на плошчы Свабода, дзе потым размясціўся гарваенкамат. Але недарэмна кажуць, што няма худа без дабра. Праз два гады пасля ліквідацыі Маладзечанскай вобласці музвучылішчу дастаўся амаль новы трохпавярховы будынак былога абласнога ўпраўлення КДБ. Больш таго, у актавай зале гэтага ведамства, звычайна ўпотай вяршыўшага свае справы, аказалася (чуў ад спецыялістаў) добрая акустыка, дзякуючы якой тут не грэбуюць выступаць многія зоркі музыкі і праслаўленыя спевакі. Спатрэбіліся нават каменныя "мяшкі" ў падвальнай частцы — камеры-адзіночкі для пакутнікаў, з якіх атрымаліся нядрэнныя добра ізаляваныя класы для індывідуальных заняткаў музыкай.

У музвучылішчы ў розныя часы атрымлівалі падрыхтоўку і працавалі ўраджэнец Цынцавічаў Вілейскага раёна Міхаіл Казінец – народны артыст Беларусі, прафесар, рэктар Беларускай акадэміі музыкі і кіраўнік ансамбля І.Сушко, вучыліся вядомы эстрадны спявак Юрый Антонаў, спевакі Тамара Раеўская, Аляксандр Ціхановіч, малады беларускі кампазітар і спявак Алег Елісеенкаў і інш.

Між тым гэтая ўстанова працяглы час была ў нейкім сэнсе "рэччу ў сабе", хаця кожны, хто ішоў міма, з раніцы да вечара чуў з вокнаў рознагалосыя рулады вакалістаў і бясконцыя экзерсісы інструменталістаў.

Асабіста знаёмы з пяццю апошнімі дырэктарамі музвучылішча, але хачу выдзеліць двух, хто адкрыў творчыя і мастацкія магчымасці гэтай навучальнай установы для самай шырокай публікі.

А.Шунтаў, выдатны харавік, здабыў шырокую вядомасць вучылішчу выступленнямі яго вялікага хору з ліку навучэнцаў і выкладчыкаў. Разам з тым, гэтая папулярнасць у 1977 годзе амаль не загубіла музвучылішча ў яго класічным стане. У сталічных мэтраў харавога мастацтва зарадзілася ідэя перапрафіляваць яго ў харавое вучылішча. Сам быў сведкам наезду ў горад з такім намерам вядомага харавога дырыжора і педагога Беларускай кансерваторыі В.Роўды і міністра культуры БССР Ю.Міхневіча і ўдзельнікам нарады па гэтым пытанні. Але добра, што такая прапанова не сустрэла адназначнай падтрымкі ні ў калектыве вучылішча, ні ў кіраўнікоў горада.

У 1980 годзе музвучылішча ўзначаліў мала каму вядомы на той час выкладчык па класу баяна, ураджэнец Маладзечаншчыны **Рыгор Сарока**.

Тое, што зрабіў Р.Сарока, — яскравае сведчанне таго, што не толькі чалавек упрыгожвае месца, але і месца ўпрыгожвае чалавека. Дырэктарская пасада і звязаная з ёй большая свабода ў дзеяннях і магчымасці для самарэалізацыі дазволілі гэтаму рознабакова таленавітаму чалавеку хутка раскрыць свой арганізатарскі і творчы патэнцыял у якасці адміністратара, музыканта, дырыжора, кіраўніка мастацкіх калектываў. Пад яго асабістым мастацкім кіраўніцтвам у 1982 годзе быў даведзены да высокага звання народнага камерны аркестр народных інструментаў; у 1985 годзе атрымаў статус гарадскога створаны пры музвучылішчы сімфанічны аркестр, які ў 1987 годзе таксама быў удастоены звання народнага. Справядлівай ацэнкай зробленага з'явілася прысваенне ў 1993 годзе музычнаму вучылішчу імя слыннага земляка кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага, а яго дырэктару Р.Сароку ў 1988 годзе – звання Заслужанага работніка культуры Беларусі.

Наколькі ведаю, у горадзе заўсёды з прыхільнасцю ставіліся і да выяўленчага мастацтва. Многія гады ў Маладзечне жыла і працавала адна са старэйшых беларускіх жывапісцаў, заслужаны дзеяч культуры Польшчы, член Саюза мастакоў Беларусі Ядвіга Раздзялоўская (1902-1992). У 1959-1977 гг. яна спалучала сваю творчую дзейнасць з выкладаннем у гарадской студыі выяўленчага мастацтва. У горадзе перыядычна ладзіліся мастацкія выстаўкі ў ГДК, цэнтральнай бібліятэцы, на якіх выстаўляліся карціны члена Саюза масткоў СССР К.Харашэвіча, членаў Саюза мастакоў Беларусі М.Аўчыннікава, Ю.Герасіменкі і іншых. У пачатку 80-х гадоў у горадзе мелася нават свая філія Саюза мастакоў Беларусі. Тады ж была пабудавана мастацкая школа.

Дзяржаўныя і сацыяльныяператрусы пачатку 90-х, на жаль, не лепшым чынам паўплывалі на культурнае жыццё горада. Як кажуць, было не да гэтага.

Першымі ластаўкамі адраджэння сталі з 1993 года маладзечанскія фестывалі беларускай песні і паэзіі, потым да іх далучыліся і рэспубліканскія тэатральныя фестывалі "Маладзечанская сакавіца". Увядзенне ў кастрычніку 2002 года ў эксплуатацыю гарадскога Палаца культуры, упэўнены, зробіць Маладзечна для Музаў яшчэ больш прывабным месцам.

**Міхаіл ФІЛІСТОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

■ ТРАГІЧНЫ ЛЁС

# Матрос з «Пацёмкіна»

**У нумары 43 «Рэгіянальнай газеты» быў змешчаны матэрыял Анатоля Рогача аб Вілейскай турме. Згадвалася імя матроса Голікава з браняносца «Пацёмкін», які быў вязнем камяніцы па цяперашняй вуліцы Першамайскай. Дачка рэвалюцыянера і сёння жыве ў Вілейцы.**

У Вілейцы да цяперашняга часу жыве Вольга Мікалаеўна Голікава – дачка Мікалая Іванавіча Голікава, матроса, удзельніка паўстання на браняносцы "Пацёмкін". Вользе Мікалаеўне ўжо 87 гадоў, мінулай вясной перанесла інсульт, але яшчэ вельмі шмат памятае і, шукаючы праўды і справядлівасці, з ахвотай распавядае пра свайго бацьку і тыя трагічныя часы.

М.І. Голікаў нарадзіўся ў 1885 годзе ў Яраслаўлі. Пасля паўстання М.І. Голікаў разам з некалькімі сваімі сябрамі прыехаў у гэтыя мясціны, каб схавацца ад праследу з боку царскіх уладаў. З надыходам савецкай улады М.І. Голікаў працаваў у Вілейскім аддзяленні міліцыі. Пасля прыходу польскай улады ў 1922 годзе трапіў у Вілейскую турму і быў прыгавораны да расстрэлу. Выкарыстаўшы хітрасць, здолеў уцячы з затачэння і перабегчы на савецкую тэрыторыю. Пэўны час працаваў начальнікам ГПУ ў Барысаве. Потым змяніў працу на грузчыка і водараздатчыка. Адпаведна даведцы, выдадзенай Камітэтам дзяржаўнай бяспекі 20 лютага 1995 года, у жніўні 1938 года быў арыштаваны органамі НКУС і 1 кастрычніка 1938 года расстраляны. Па іншых звестках, на падставе даведкі аб смерці, выдадзенай 18 жніўня 1961 года , памёр 24 кастрычніка 1941 года ад хранічнай недастатковасці сардэчнай дзейнасці. 13 лістапада 1964 года пасмяротна рэабілітаваны.

У вачах Вольгі Мікалаеўны Голікавай блішчаць слёзы, а ў голасе падчас расповяду гучыць крыўда: "З самага дзяцінства было праклятае жыццё. І цяпер няма аніякай павагі. Адна толькі несправядлівасць". Пенсія малая, грошай на лекі не хапае. Падчас мінулагодняга передвыбарнага візіту А. Лукашэнкі ў Вілейку ўсе платы каля завода "Зеніт" паставілі і пафарбавалі, нават каля хаты, у якой ніхто не жыве. А суседні дом, у якім жыве Вольга Мікалаеўна, пакінулі па-за ўвагай.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**



**Сям'я матроса Мікалая Голікава, які служыў на знакамітым браняносцы "Пацёмкін". Злева направа Дар'я Голікава (жонка Мікалая), Спірыдон Макараў (брат жонкі), Вольга і Міхаіл (дзеці), Мікалай Голікаў, Іван Голікаў (брат Мікалая). Здымак зроблены ў Вілейцы ў дакастрычніцкі час.**

Фота з сямейнага архіва сям'і ГОЛІКАВЫХ.

# Тайны мuroў Вілейскай турмы

## Аб злачынствах у мурах Вілейскай турмы слухалася ў кангрэсе Злучаных Штатаў Амерыкі ў 1954 годзе

**У кастрычніку мы расказвалі аб гісторыі турмы ў Вілейцы. Сёння ў працяг тэмы друкуем сведчанне Васіля Місюля, ураджэнца вёскі Іжа на Вілейшчыне, якое дадзенае ў 1954 годзе амерыканскаму кангрэсу і апублікаванае ў 1960 годзе ў Лондане ў зборніку дакументаў і матэрыялаў Беларускай цэнтральнай рады. Захоўваем правапіс арыгінала.**

Вынятак са сьведчаня Васіля Місюля, прадстаўленага ў 1954 г. адумысловаму камітэту Амэрыканскага Кангрэсу, пад старшынствам Ч. Керстэна, дасьледуючаму камуністычную агрэсью

Па прафэсіі я настаўнік народнай школы. Я жыў і працаваў у Заходняй Беларусі да 1944 г. Ад 1944 г. да 1950 г. я жыў у Нямеччыне як эмігрант. У 1950 г. я выэміграваў у ЗША.

Я хачу падаць наступныя інфармацыі адносна савецка-Расейскай палітыкі "вызваленьня" на Заходняй Беларусі ад 1939 г. да 1941 г.

Па звальненьні мяне з працы настаўніка савецкімі ўладамі, за неадпаведную самакрытыку, я доўга ня мог знайсьці занятку. Нарэшце некалькі месяцаў да вайны з немцамі, пры помачы знаёмых я прыстроіўся бугальтарам у доўмуправе гораду Вілейкі. У гэтым часе пачаліся масавыя дэпартацыі жыхароў Беларусі ў Сыбір. Прыпамінаецца наступны эпізод.

Аднае раніцы ня прышоў на працу мой памоцнік Яцкевіч. Хутка выясьнілася, што яго мінулай ночы забрала НКВД. Але яму належыла аплата за працу. Я, як бугальтар, пастанавіў аднесьці ягоныя грошы на станцыю, дзе ён сядзеў у цягніку, які яшчэ не адыйшоў. На станцыі я пабачыў жудасны абраз. Там стаяў даўгі цягнік, з нейкіх 60 вагонаў, у якіх перавозілі звычайна скаціну. Цягнік быў абстаўлены ўзброенымі жаўнерамі НКВД з абодвух бакоў, па 4 вартаўнікі каля кожнага вагону. Вакенцы вагонаў былі закратаваны калючым дротам і немагчыма было бачыць у іх людзей.

На станцыі было шмат сваякоў арыштованых, якія прынясьлі ежу, ці вопратку для сваіх родных, якія былі ў вагонах. Жаўнеры нікога не дапушчалі да цягніка і намаўлялі людзей, каб яны вярталіся дамоў, бо ў вагонах людзі маюць усяго досыць і нічога не патрабуюць, а передадзенае выкідаюць прэч на другі бок цягніка, хаця там ня было нічога відаць выкіненага.

Мяне так сама доўга не дапушчалі да цягніка. Толькі галоўны начальнік, які кіраваў дэпартацыяй, дазволіў мне перадаць зробленыя грошы Яцкевічу. Пасьля доўгага шуканьня і лаянкі з жаўнерамі мне паказалі вагон, у якім меў быць Яцкевіч. Падвязаўшы грошы на кій я перадаў іх у руку, якая высунулася праз калючы дрот вакенца, ня ведаючы чыя гэта была рука, бо твару пабачыць з зямлі было немагчыма.

Гэта толькі адзін цягнік з дэпартаванымі на Сыбір беларусамі, які я бачыў асабіста. Але з Вялейкі іх адышло значна больш.

Іншы, яшчэ больш жудасны абраз бальшавіцкай апекі на беларускіх землях я бачыў пасьля таго, як бальшавікі ўцяклі з Вялейкі перад наступаючымі нямецкімі войскамі. Калі ўсе ўпэўніліся, што наехаўшыя з Савецкай Расеі бальшавікі уцяклі, а іх мясцовыя памоцнікі пахаваліся, то шмат народу захацела адведаць турму, з якой у начы выгналі ўсіх арыштованых невядома куды. У турме нашым вачом паказаліся абставіны, у якіх бальшавікі трымалі людзей і якіх нельга забыцца да сьмерці. На ніжэйшым паверху камэры былі высака забалочаныя нячыстотамі, урынай, бруднай саломай. Вышэйшыя камэры былі пазаліваныя нячыстотамі з парашак. Смурод у будынку быў не да вытрыманьня.

На турэмным панадворку была пабудаваная невялікая зямлянка, з якой ішоў акрываўлены сьлед па зямлі ад нечага цяжкага валочанага ў бок сьвежа закопанай траншэі тутжа на гародзе. У зямлянцы мы пабачылі моцна апырсканую кроўю сьцяну, на якой было шмат дзюрак ад куль. На падлозе з пяском быў аграмадны грыб згусьцелай крыві. Тут стралялі людзей, якіх пасьля цягнулі па зямлі ў траншэю.

На другі дзень створаная гарадзкая ўправа, пад кіраўніцтвам Л. Сапешкі, приступіла да раскопак на турэмным панадворку. Я бачыў як адкапалі адну самую сьвежую траншэю. Тут былі застрэленыя куляй у патыліцу людзі, са зьвязанымі назад калючым дротам рукамі, уложаныя адзін каля другога і прысыпаныя ня тоўстым слоям зямлі. Пласты людзей ляжалі адзін над другім, разьдзеленыя ня тоўстымі слаямі зямлі. Пры мне адкапалі тры пласты яшчэ сьвежых трупаў. Шмат хто з людзей мог распазнаць сваіх родных, ці знаёмых па твары, а ў ніжэйшых пластох — па вопратцы. Далейшых раскопак я не бачыў, бо на панадворку турмы немагчыма было стаяць дзеля цяжкога паху ад адчыненых магіл. Пры мне было выдабыта больш за сотню трупаў. Распазнаных забралі родныя з бліжэйшых вёсак і пахавалі на сваіх магілках. Рэшту ахвяраў перавезьлі на гарадзкі могільнік і пахавалі па хрысьціянскаму абраду.

Агулам знойдзена ў Вялейскіх траншэях каля 500 трупаў людзей, вымардаваных НКВД за паўтара году савецкай улады. Так было ў невялічкай Вялейцы (у самой Вялейцы ў тыя часы жыло каля 4000 насельніцтва), але-ж такія парадкі былі пад саветамі па ўсей шматпакутнай Беларусі.

**Травень, 1954 г., Нью-Йорк.**

У турме нашым вачом паказаліся абставіны, у якіх бальшавікі трымалі людзей і якіх нельга забыцца да сьмерці.

Я, як бугальтар, пастанавіў аднесьці ягоныя грошы на станцыю, дзе ён сядзеў у цягніку, які яшчэ не адыйшоў. На станцыі я пабачыў жудасны абраз. Там стаяў даўгі цягнік, з нейкіх 60 вагонаў, у якіх перавозілі звычайна скаціну.



**У 1994 годзе побач з будынінай былой турмы пачалося будаўніцтва новага корпуса анкалагічнай бальніцы. Падчас работ тут знайшлі людскія астанкі. Косці перазахавалі на новых гарадскіх могілках каля Снежкава. Дасканалага следства, якое б магло выявіць, хто быў ахвярамі, не праводзілася. Каб знаходка была зроблена ў савецкія часы або сёння, хутчэй за ўсё работы б не спыніліся і на людскіх касцях быў бы узведзены лячэбны корпус. Усё ж здарылася ў час, калі на такое рашэнне не хапіла ў чыганенства духу. Сцены толькі пачалі ўзводзіцца, урэшце пра будаўніцтва забыліся, як і пра лёс нязнаных ахвяр.**

Фота Віталя ПАЎЛОЎСКАГА.

# Вялля – крыніца прыгажосці

**Шмат павандравалі за 8 год юныя вандроўцы з турысцкага клуба «Чарапашкі», што пры дзіцячым пакоі ГВА «Камунальнік» г. Вілейкі. Вяршыні Карпатаў, шахты Салігорска, байдарачныя маршруты, веласіпедныя падарожжы, вандроўкі ў Расію, у Літву, на Блакітныя азёры і незлічоная колькасць мясцовых паходаў. Мы ведаем, што не бывае дрэннага надвор'я, бывае толькі кепскае адзенне. «Чарапашкі» могуць начаваць ў палатках і ў мароз, і ў дождж, і ў буру.**

Найбольш змястоўным нам падалося падарожжа па Віліі-Вяллі. Даўно марылі знайсці пачатак ракі. Дапамаглі нам загадчыца райаддзела культуры Хрысціна Шымакоўская і навуковыя супрацоўнікі краязнаўчага музея. Падрыхтоўку экспедыцыі пачалі з вывучэння гістарычных крыніц, картаграфічнага матэрыялу і паданняў.

Усяго 7 кіламетраў сёння раздзяляе бачныя вытокі і Сцёп-камень, які схаваўся ў лесе так надзейна, што мясцовыя хлапчукі з вёскі Баяры на просьбу паказаць сцежку сарамліва апускалі галовы. Урэшце кульгавы дзед з кіёчкам прапанаваў дапамогу, дадаўшы, што сваімі нагамі хадзіў да каменя гадоў 30 таму. Ажно "Газэль" не прайшла, і мы, параўноўваючы версіі мясцовых лоцманаў, хутка знайшлі сасну-Акуліну і недзе праз гадзіну адшукалі недалёка і каменнага Сцяпана. Аніякай крыніцы побач, ажно праз 700 метраў край перасохлага Кравецкага (Забор'еўскага) балота. Як кажуць, шмат вады сплыло...

## У Вілейцы ля Докшыцаў

**Па дарозе да каменя адбылася яшчэ адна сумная сустрэча. Мы заехалі ў вёску Вілейка Докшыцкага раёна пабачыць драўляную царкву, якую некалі усё блыталі (па дакументах) са Свята-Георгіеўскай царквой горада Вілейкі, што некалі стаяла на плошчы Свабоды. Як пасля нашэсця ворагаў: абадраныя сцены без вокнаў і дзвярэй хаваюць хіба ад ветру некалькі мяхоў купаросу, бо даху даўно няма. Наогул, гэты глухі канец вёскі мёртвы – ані брэху, ані крыку пеўня. Падсеклі вандалы духоўны корань – і знікае жыццё.**

Далейшы наш шлях да сучасных вытокаў Вяллі. Ля вёскі Шыленцы, дзе па карце бярэ рака свой пачатак, можна адно паплюхацца. Не магло быць і гаворкі, каб адсюль пачаць паход – берагі, вузейшыя за байдарку, пераплеценыя хмызняком. А некалі ў 14 стагоддзі менавіта адсюль пачыналі лесасплаў... Ад'ехалі два кіламетры ніжэй, да в. Кромавічы, і прыйшла пара развітвацца з гасціннымі культработнікамі. Шчасліва! А ў нас наперадзе 90 км рачной дарогі (згодна з картай). Гэты цудоўны дзень 8 мая 2002 года мы завяршылі смачнай кашай і гарбатай з маліннiку. Началі ў квітнеючым яблыневым садзе (які водар!) ля закінутай з-за непатрэбнасці школьнай майстэрні.

Раніцой падняліся амаль з сонцам і, добра падсілкаваўшыся, рушылі. Класічнае пажаданне "сем футаў пад кілем" прагучала, як здзек. Скрыгочам металічнымі вёсламі аб берагі, якія разышліся ўжо на метр, а то і на два. Месцамі здаецца, што плывеш па лузе сярод травы. Аж раптам рака пашыраецца, чуцен шапаток невялікага вадаспаду. Так і ёсць – бабровая гаць, а за ёй рачулка выглядае ручаінкай. Яшчэ метраў праз сто лясны завал. Ізноў пераносім рэчы, перацягваем лодкі. Паколькі берагі забалочаныя, на ўсіх абносах прымаем гразевыя ванны, пераважна ніжняй часткай цела, але хапіла і верхняй. Дзень сонечны, абсыхаем хутка, але ненадоўга. Гаці мяняюцца на мелі, завалы на нябачныя ў вадзе валуны. А колькі тут крынічак! Праз два-тры метры з абодвух бакоў ціхенька бурчаць драбнюткія ручайкі. Перашкоды і выкрутасы рэчачкі збілі з нас увесь імпэт – графік похода пачаў "трашчаць". За ўвесь дзень здолелі прайсці каля 8 кіламетраў. І гэта з кароткім абедам і практычна без прывалаў! Палаткі ставілі ўжо ў прыцемках, калі нацягалі дроў і паставілі варыць вячэру. Надвор'е стала халаднаватым, вецер прынёс кароткачасовыя дажджы, што ішлі амаль без перапынку ўсю ноч. Зранку прачнуліся ад гоману рыбакоў – тыя правяралі сеткі і шматлікія "тэлевізары". Сонейка на ўсходзе асвяціла ўзгорак, да якога ўтульна прыляпіліся хаткі ўжо знаёмай нам вёскі – Вілейкі.

Усё робім хутка: дзяжурныя даварваюць грэчку, астатнія пакуюцца, каб пасля снедання не губляць часу. Стартуем. Надвор'е змянілася на нашу карысць – сонца, прахалода антыцыклона і вецер у спіну суправаджалі нас да канца паходу. Зноў бабровыя гаці, ды яшчэ якія! Некаторыя ўтвараюць перапад вышынь больш за 2 метры! Разам з тым мы ўгледзелі і шмат чаго іншага, што затрымлівала плаціны. І, паверце, пластыкавыя бутэлькі, пенапласт, рэшткі сельскагаспадарчай тэхнікі далёка не самае брыдкае, што можна сустрэць у рацэ.

## Адкуль рушылі плытагоны

**Віхляе рэчка ўсё меней, берагі разыходзяцца да 5-15 метраў, на змену завалам прыходзяць масточкі. Як турысты-пешаходнікі радуюцца, напаткаўшы кладку! Чаму з той жа нагоды уздыхаюць воднікі? Кожнаму сваё, усім не дагодзіш...**

Ля вёскі Вешкі рэшткі старога млына, адсюль у 18 стагоддзі пачыналі плытагоны свой шлях. Рака далей ідзе спрамленая каналамі, ёсць магчымасць нагнаць час. Пад мастом спыніліся на "размінку": адныя чэрпалі ваду з байдарак, другія сходзілі ў в. Пагост за хлебам і малаком. Сырадой, здаецца, уліў новыя сілы на наступныя 5 кіламетраў. Недалёка ад вёскі Стахі выпаўзлі, ледзь жывыя, на бераг. Прайшлі за дзень прыблізна 27 км.

10 мая. Пад'ём у 5.30. Кожны ведае свае абавязкі, усе працуюць моўчкі і плённа. Адвальваем. Рака мае шырыню 8-12 метраў. Прывал праз 5 км – ідзём аглядаць старажытныя татарскія могілкі, на якіх хаваюць і цяпер. Далей, у в. Камена, яшчэ больш "сур'ёзны" гістарычны аб'ект: камень-звон, на якім выбіты так званы Варацішын Хрэст. Зроблены ён па тыпу Барысавых ка-



Такой паўстала Вілія турыстаў з Вілейкі напачатку іхняга шляху. Наперадзе яшчэ 90 кіламетраў. Фота Міхаіла ПЕТУХА.



Фота на памяць у Докшыцкім раёне ля вёскі Вілейка. Хрысціна Шымакоўская, Наталля Яфімава, Вольга Коласава (злева направа) сустрэнуцца яшчэ раз з юнымі турыстамі ў горадзе з аднайменнай назвай. Фота Міхаіла ПЕТУХА.



Святое месца паганцаў, а затым і хрысціян - камень-звон ля Камена з выбітым «Варацішыным Хрэстам». Фота Міхаіла ПЕТУХА.

мянёў і добра апісаны Тышкевічам падчас яго падарожжа – менавіта адсюль славуты даследчык пачаў сваю вандроўку. І зноў вяслуем, стараючыся не думаць пра здранцвелую спіну і знямелую апору. Абед варым ля в. Кастыкі, зашываем нанесеныя воднаму конiку раны, абыходзім царкву 18-га стагоддзя і рушым уперад.

## На шырокі прастор

**Вялля раптам пашырэла, адчувальна ўзраслі хвалі. Парывы ветру дасягалі трох балаў, але гэта не страшна, калі без перапынку вяслуеш.**

Мінаем зверасаўгас, Сосенку. Начаваць спыніліся на востраве – болей дзеля экзотыкі, бо тут неабходна прымаць меры экалагічнай бяспекі ў дачыненні да птушак, у чыёй "уласнасці" знаходзіцца востраў.

Цікава было б даведацца, хто навучыў чаек смяяцца, плакаць, крычаць немаўляткам? Дадайце сюды плюхаценне хваляў, шум ветру і бясконцую снежань зорнага неба, і вы атрымаеце ўяўленне аб гэтым дзівосным прытулку. Нядоўгае наша замілаванне прыгажосцю – стома зноў бярэ сваё. Скажам шчыра, ночы мы амаль не бачылі, расплюшчылі вочы – ужо дзень. Апошнія 16 кіламетраў прайшлі з двума прываламі – адзін на востраве Загіблых ластавак (хвалі падмылі бераг, і ён ссунуўся, пахаваўшы сотню, а мо' і болей, гнёздаў ластавак-берагавушак), другі адпачынак на "мацерыку" Чыжэвіцкага заліва. Прыемна гойдаецца байдарка, вецер па-ранейшаму – у спіну. Плаціна нас сустрэла ў 15.00 (па графіку!) "доўгачаканай" папсой і крыкамі выпівох. Толькі тут мы зразумелі, што пяць дзён экспедыцыі былі для нас накшталт вандроўкі на Месяц, ці яшчэ далей.

**Міхаіл ПЕТУХ,**
**кіраўнік дзіцячага турклуба "Чарапашкі", г. Вілейка.**

# Легенды пра Вілію

## Сцяпан і Вяльяна

У гэтых мясцінах жыў кравец Сцяпан, што меў прыгожую нарачоную Вяльяну. Працавіты Сцяпан апранаў жыхароў навакольных вёсак, ажно невядома за які грэх прысуджана было яму абярнуцца каменем. Яшчэ напалову чалавек, ляжаў ён каля Заборскага балота і працягваў шыць. Вяльяна не пакідала свайго сябра, праводзіла з ім дні. Аднойчы, атрымаўшы заказ пашыць "ні тое, ні сёе", няшчасны Сцяпан доўга мучыўся, але усё ж не здолеў зрабіць, і ў роспачы ўвесь скамянеў. Раніцой Вяльяна знайшла свайго каханага нямога і халоднага,упала на калені і горка заплакала. Так цякуць па сённяшні дзень слёзы дзявочыя, убіраючы ў сябе з крыніц слёзы іншых людзей. Назвалі рэчачку Вяллёй, камень – Сцёпчыным, а балота менавалі Кравецкім. Па другой версіі такая доля напаткала краўца Сцяпана за працу ў дні царкоўных святаў.

## Сцяпан і Акуліна

Па іншай легендзе, якую распавядаюць і сёння жыхары Докшыцкага раёна, Сцяпан араў зямлю ў святочны дзень. Яго жонка Акуліна любіла сварыцца і, як звычайна, прынесла лусту на поле, дадаўшы праклён: "Каб ты каменем стаўся, што ў такі дзень працуеш!". Імгненна скамянеў Сцяпан, толькі ўспелі здранцвелыя вусны прашаптаць у адказ: "А ты дрэвам, каб маўчала...". З-пад каменя пачала біць крыніца – колішні пачатак нашай Вяллі. А сасна-Акуліна з таго часу плача слязьмі. Як хто бярэцца яе пілаваць, дык адразу спыняецца, бо з дрэва цячэ чалавечая кроў.

# Вайна зямлянкам і баракам

**Пасля выгнання з Маладзечна акупантаў у горадзе было 1680 зямлянак. А жыццё ў бараку для гараджан уяўлялася на той час самым сапраўдным шчасцем...**

**Мне пашчасціла падоўгу размаўляць з першым пасляваенным старшынёй Маладзечанскага гарсавета, ганаровым грамадзянінам горада Міхаілам Рыжовым.**

Памятаю, як ён сказаў, што пасля выгнання з горада нямецка-фашысцкіх акупантаў у Маладзечне было 1680 зямлянак. Яны далі прытулак сем'ям гараджан, што засталіся без даху над галавой.

Гэты чалавек, які шмат сіл і энергіі аддаў будаўніцтву жылля ў горадзе, да апошніх дзён, амаль 40 гадоў, пражыў са сваёй жонкай у аднапакаёвай кватэры ў шэрым доме каля цяперашняга абласнога тэатра. Вечарам для работы адгароджваўся драўлянай шырмай, якую зрабіў мой бацька-сталяр.

Падобных фактаў сціпласці і бескарыслівасці ў апошніх вядомых мне кіраўнікоў я не сустракаў.

Аддаючы перавагу логіцы, перш за ўсё таму, каб не затапліваліся вясной і восенню вадой, зямлянкі выкопваліся і будаваліся кампактна і на ўзвышшэннях. Яшчэ ў пачатку 50-х гадоў у горадзе вылучаліся дзве "плешы" зямлянак – у раёне цяперашняга музвучылішча і гараддзела міліцыі і там, дзе цяпер прадпрыемства электрасетак.


На вуліцы Драздовіча (ранейшая імя Калініна) баракі прастаялі да 60-х, 70-х. Інтэрнат «Спадарожніка», які вырас побач з баракам, не мог вырашыць усіх праблем з жыллём у Маладзечне.
Фота Міхаіла АСАЕВІЧА.

Баракі таксама размяшчаліся кампактна. Імі была забудавана прывакзальная тэрыторыя і вул.Рэвалюцыйная (цяпер імя Прытыцкага), а таксама Зялёны гарадок і так званы "будучастак" з правага боку пуцепровода.

Баракі ўяўлялі сабой доўгія дашчаныя прысадзістыя збудаванні з навылётным калідорам, па абодва бакі якога былі дзверы ў жылыя пакоі. "Добраўпарадкаваныя" баракі адрозніваліся тым, што кожны жылы пакой меў свой выхад на вуліцу праз прыбудаваны калідорчык, што служыў адначасова і кухняй.

Генеральнага плана забудовы Маладзечна ў той час не было, таму будаўніцтва першых капітальных жылых аб'ектаў ажыццяўлялася па прынцыпу неабходнасці. Неабходна было злучыць з традыцыйным горадам Гелянова, таму ў ліку першых была забудавана двухпавярховымі жылымі дамамі вуліца Жданава (цяпер Машэрава). Затым прыводзілася ў адпаведны абласному цэнтру выгляд вул. Рэвалюцыйная, дзе былі знесены баракі і на іх месцах пабудаваныя шматпавярховыя цагляныя дамы. Апошнім з іх быў дом з магазінам "Юбілейны".

Падзеяй стала будаўніцтва чатырох двухпавярховых 40-кватэрных дамоў, якія далі жыццё новай вуліцы імя Маркава. У забудове гэтай вуліцы ўжо прагледжваецца некаторы архітэктурны перспектыўны замысел, аб чым гаворыць вонкавы выгляд аркі ўваходу ў гарадскі парк і фасад Дома культуры будаўнікоў (цяпер абласны тэатр лялек), сіметрычная і аднатыпная забудова абодвух бакоў вуліцы.

У той час гэта вуліца магла б быць найпрыгажэйшым архітэктурным ансамблем у горадзе, каб не тыя выдаткі, якія здараюцца ў будаўніцтве з прычыны адсутнасці генеральнага плана. Даводзіцца шкадаваць, што цудоўная пляцоўка, на якой маглі б размясціцца высотныя прыгожыя дамы, забудавана непрыгожымі, да таго ж мала прыдатнымі па сучасных мерках для жылля збудаваннямі.

З будаўніцтвам двухсекцыйнага жылога дома на рагу новага праспекта імя Леніна (цяпер Вялікі Гасцінец) і вул. Б.Хмяльніцкага ў мову трывала ўвайшло паняцце мікрараён. За першым замацавалася назва "Ленінскія горы". Узвядзенне жылля было пастаўлена на планавую аснову.

І даводзіцца радавацца за маладзечанцаў, што колькасць мікрараёнаў расце. А зямлянкі і баракі няхай застаюцца набыткам гісторыі.

**Міхаіл ФІЛІСТОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

# Новы цэнтр зрабіў Маладзечна адным цэлым

**Сёння маладзечанцы ходзяць па камянях Крэўскага замка. Гістарычнае бяспамяцтва таксама мае карані**

**У адрозненне ад іншых гарадоў, напрыклад, Вілейкі, Смаргоні, Валожына, Мядзела, у Маладзечне былі тры цэнтры: гістарычны – Базарная плошча ля царквы (сучасная плошча Свабоды), і цяпер у абрамленні будынкаў дарэвалюцыйнага часу, раён чыгуначнай станцыі і Гелянова.**

Само жыццё падказвала неабходнасць звязаць горад у адзінае цэлае, што і было зроблена ў канцы 50-х і пачатку 60-х гадоў ужо мінулага стагоддзя будаўніцтвам новага адміністрацыйнага цэнтра падчас апошняга першага сакратара Маладзечанскага абкома партыі С.В.Прытыцкага. Ды і месца для яго было выбрана здатнае – перакрыжаванне вуліц ад плошчы Свабода і чыгуначнага вакзала, дарог на Гелянова і на Вільнюс.

Ключавым аб'ектам новага цэнтра стаў фундаментальны будынак абкома партыі (цяпер палітэхнікума), побач з якім выраслі будынкі абласнога савета прафсаюзаў (потым гаркома партыі, цяпер дзіцячай музычнай школы), абласнога спажывецкага таварыства (цяпер раённая падатковая інспекцыя), жылыя дамы для абкомаўскага і іншага начальства.

Тады ж закладвалася і цэнтральная плошча імя Леніна, пры будаўніцтве якой патрэбна было ліквідаваць дзве перашкоды: узарваць двухметровы фундамент прыдарожнага польскага крыжа, які не бралі ніякія адбойныя малаткі, і разманціраваць чыгуначную каляю, якая ішла на месцы сучаснай вуліцы Льва Талстога і далей да дзіцячай бальніцы. Спатрэбілася аднесці і шашу Мінск-Вільнюс, што перасякала плошчу. Новая дарога стала праспектам Леніна, цяпер – Вялікім Гасцінцам.

Плошчу брукавалі камянямі, якія завозіліся з Крэва, для чаго ладзіліся агульнагарадскія нядзельнікі. Толькі пазней з жахам зразумеў, да якой ступені было прывіта нам гістарычнае бяспамяцтва, што маглі бяздумна і з лёгкасцю рушыць муры старажытнага замка, каб назаўсёды пахаваць іх астанкі пад асфальтам новай гарадской плошчы.

Інтэнсіўнасць фарміравання новага цэнтра аслабела ў сувязі з ліквідацыяй у 1960 годзе Маладзечанскай вобласці, пакінуўшай пасля сябе ў горадзе звыш дзвюх тысяч чыноўнікаў абкома, аблвыканкома і іншых абласных устаноў, якіх патрэбна было ўладкаваць на працу.


Так будавалася Цэнтральная плошча (на той час плошча Леніна). Для гэтага давялося перанесці шашу Мінск-Вільня, узарваць прыдарожны крыж, разманціраваць чыгуначную каляіну. Удалечыні будынак Маладзечанскага абкома КПБ (цяпер палітэхнікум).
Фота з фонду Мінскага абласнога краязнаўчага музея.


Будуецца магазін «Юбілейны». Унізе відзён рэстаран «Папараць-кветка». Маладзечна станавіўся сапраўдным цэнтрам рэгіёну.
Фота Міхаіла Асаевіча.

Тым не менш новы цэнтр дапоўніўся будынкамі ўлікова-планавага тэхнікума, гарадской бібліятэкі, універмага. У 70-80 гады, пасля працяглых "абіванняў парогаў" гарадскім кіраўніцтвам у абласных і рэспубліканскіх інстанцыях, былі атрыманыя сродкі на будаўніцтва шматпавярховай гасцініцы і гарадскога Палаца культуры. Апошні даўгабуд нарэшце здадзены і дасць новы імпульс культурнаму жыццю горада.

**Міхаіл ФІЛІСТОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

■ СПАРТАКІЯДА

# Гаспадары – мацнейшыя ў вобласці

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулыя выхадныя горад прымаў удзельнікаў фінальнага турніру абласной спартакіяды, якую звычайна скарочана называюць спаборніцтвамі "па месцы жыхарства".**

Тут выступаюць дарослыя, пераважна працоўныя людзі. Усяго пяць відаў спорту. Папярэдне праводзіліся занальныя турніры. З іх ва ўсе фіналы выйшлі прадстаўнікі Маладзечна і Слуцка. Думаецца, гэтым гарадам маглі б у патэнцыяле скласці шчыльную канкурэнцыю Барысаў і Салігорск, але там, відаць, не надта сур'ёзна паставіліся да гэтых спаборніцтваў.

Міні-футбол: 1. Маладзечна. 2. Слуцк. 3. Смалявіцкі раён. 4. Дзяржынск. 5. Пухавіцкі раён.

Каманда перамажцаў была сфарміраваная на базе калектыву ЗМК. Лік матчаў з сапернікамі адпаведна занятых месцаў: 4:1, 8:0, 10:2, 6:1. У складзе выступалі варатар **Уладзімір Карнавух**, палявыя **Сяргей Дакурна, Сяргей Півавар, Аляксандр Страх**, вядомыя ў прафесійным спорце **Аляксей Відрук, Аляксандр Грыхуцік, Мікалай Татун**. Найбольш забівалі Татун і Дакурна. 6-8 снежня каманда паедзе ў Магілёў на рэспубліканскую спартакіяду. Там па кожным відзе спорту збіруцца пераможцы з абласцей.

Аэробіка: 1. Пухавіцкі раён. 2. Маладзечна. 3. Барысаў. 4. Нясвіжскі раён. 5. Слуцк. 6. Старадарожскі раён.


Выступае каманда Слуцка па аэробіцы. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Было дзве катэгорыі ў жанчын: да 30 гадоў і пасля 30 гадоў. І там, і там трэцяе месца за маладзечанкамі: адпаведна **Таццянай Сінько** і **Алай Корбут**.

Валейбол (мужчыны): 1. Жодзіна. 2. Маладзечна. 3. Слуцк. 4. Клецкі раён.

Вельмі добра гулялі гаспадары, але ў рашаючым матчы ва ўпартай барацьбе яны саступілі жодзінцам. У складзе вылучаліся **Ігар Фёдараў** і **Павел Гаруцька**.

Валейбол (жанчыны): 1. Старадарожскі раён. 2. Слуцк. 3. Маладзечна. 4. Пухавіцкі раён. 5. Мінскі раён.

У складзе маладзечанак партнёршаў за сабою вялі **Тацяна Мілеўская** і **Марына Кляманціч**.

Настольны тэніс: 1. Мінскі раён. 2. Дзяржынск. 3. Слуцк. 4. Лагойскі раён. 5. Маладзечна.

Афіцыйны агульны залік не падлічваўся, але калі скласці занятыя месцы (хто не ўдзельнічаў у фінальным турніры, атрымлівае 6 ачкоў), то тройка прызёраў будзе выглядаць наступным чынам: 1. Маладзечна (1+2+2+3+5) – 13 ачкоў. 2. Слуцк (2+5+3+2+3) – 15. 3. Пухавіцкі раён (5+1+6+4+6) – 22.

Поспех маладзечанцаў не выпадковы. Нездарма ж ім было дадзена права правесці фінальны турнір. Як у арганізацыйным плане (напрыклад, урачыстыя цырымоніі адкрыцця і закрыцця), так і ў спартыўным яны аказаліся на вышыні. На належным узроўні адпрацавалі і супрацоўнікі аддзела па фізічнай культуры, спорту і турызму, і самі спартсмены.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ КАНФЕРЭНЦЫЯ

## Федэрацыя сабралася

**МАЛАДЗЕЧНА. Напярэдадні справаздачна-выбарных канферэнцый Беларускай федэрацыі футбола (19 снежня) і Мінскай абласной (4 снежня) мусіла сабрацца і Маладзечанская рэгіянальная.**

Мерапрыемства прайшло дзяжурна, яго ход быў запланаваным і прадказальным. Найбольш цікавым рашэннем стала делегаванне **Альберта Дабранскага** і **Анатоля Ішчанкі** на абласную канферэнцыю, а таксама просьба да клубаў "Маладзечна-2000" і "Забудова" назваць новых делегатаў на рэспубліканскую канферэнцыю замест бацькі і сына **Лукіных**, якія былі вылучаны яшчэ летам, але цяпер ужо не працуюць у гэтых камандах.

Запомніцца гэтая канферэнцыя прысутным тым, што ў адзін час з ёй па тэлебачанні ў прамым эфіры трансліраваўся "залаты" матч чэмпіянату Расіі паміж "Лакаматывам" і ЦСКА.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Табло**

■ БАСКЕТБОЛ

МІНСК. На шостым міжнародным турніры памяці былога міністра спорту і турызму Уладзіміра Рыжанкова ўдзельнічалі юнакі і дзяўчаты 1986-87 гадоў нараджэння.

У абодзвюх намінацыях перамаглі нашы суайчыннікі. У складзе каманды дзяўчат выступалі выхаванкі смаргонскай СДЮШАР-1 **Юлія Дурэйка, Алена Рынкевіч** і **Аляксандра Тарасава**. Беларускі паслядоўна перамаглі палячак 81:61, латышак 65:33 і расіянак 69:64.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ВАЛЕЙБОЛ

У жаночым занальным турніры чэмпіянату вобласці з нашага рэгіёну не выступаў ніхто. Мужчыны сваю "зону" згулялі ў Мядзеле.

Гаспадары перамаглі, другімі сталі валожынцы, трэцімі – каманда Маладзечна, апошнімі – Маладзечанскага раёна. У паўфінальны турнір выйшлі гаспадары (вылучаліся ў складзе **Алег Саковіч** і **Юрый Ломаць**) і валожынцы (лепшым быў **Арцём Балабан**).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ АКРАБАТЫКА

ВІЛЕЙКА. На традыцыйны міждзяржаўны турнір памяці Уладзіміра Коркіна ездзілі ў Брэст выхаванцы мясцовай ДЮСШ.

Імі былі змешаная пара **Кацярына Чабрыцкая** (11 гадоў) і **Аляксей Смялкоў** (16 гадоў). Іх трэнер **Іван Мамай**. Занялі трэцяе месца з дзевяці ўдзельнікаў у гэтым відзе.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

Дзесяць маладзечанцаў і шэсць смаргонцаў ездзілі ў Гродна на рэспубліканскія спаборніцтвы па кросу.

Лепшы вынік – другое месца – паказаў маладзечанец **Яўген Мучынскі** (16-17 гадоў, 5 км). У дзесятку мацнейшых (кожная намінацыя сабірала да пяцідзесяці ўдзельнікаў) таксама трапілі маладзечанец **Вадзім Бабей** (14-15 гадоў, 3 км) і смаргонцы **Дзмітрый Граматоўскі** (16-17 гадоў, 5 км) і **Віталь Рогач** (18-19 гадоў, 8 км).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ НА ГЭТЫМ ТЫДНІ ГУЛЯЮЦЬ

**30 лістапада – 1 снежня, Маладзечна, зала ЗМК**

Міжнародны турнір сярод ветэранаў па міні-футболу

У госці да ўладальніка Кубка СССР-1991 сярод калектываў фізкультуры "Металурга" (Маладзечна) прыедуць чэмпіён СССР-1982 "Дынама" (Мінск), бронзавы прызёр чэмпіянату СССР-1988 "Жальгірыс" (Вільнюс), прызёры рэспубліканскіх першынстваў БАТЭ (Барысаў), Лакаматыў (Віцебск).

На пляцоўку збіраюцца выйсці Міхаіл Вергіенка, Ігар Гурыновіч, Юрый Курбыка, Юрый Куренін, Юрый Пудышаў, Людас Румбуціс, Томас Данісявічус, Вальдамарас Юркус, Васіль Віскушэнка, Юрый Петухоў, Уладзімір Галубко, Андрэй Радкевіч, Уладзімір Трус, Віктар Навумаў, Вячаслаў Акшаеў, Андрэй Любчанка.

Пачатак у суботу з 11-00, у нядзелю з 10-00. Ушанаванне пераможцаў адбудзецца прыблізна ў 14-00 у нядзелю.

**29 лістапада – 1 снежня, Валожын, школа-гімназія**

Занальны турнір чэмпіянату Мінскай вобласці па баскетболу сярод жанчын. Мяркуецца ўдзел каманд Валожынскага раёна, Вілейскага раёна, горада Маладзечна, Маладзечанскага раёна, Мінскага раёна, Мядзельскага раёна.

Пачатак у пятніцу з 15-00, у суботу і нядзелю з 10-00.

■ ФУТБОЛ, ЭКСПРЭС-АНАЛІЗ

# Барацьба за выжыванне - таксама інтрыга

**Чэмпіянат для маладзечанскай каманды быў падзелены на два роўныя адрэзкі. Пералом прыйшоўся на перапынак паміж кругамі. Каманды Людаса Румбуціса і Аляксандра Кісценя. Аб'ядноўвала гэтыя калектывы адно - праблемы з фінансаваннем.**

### Каманда Румбуціса

Пасля ўдалага дэбютнага сезона вядомаму трэнеру ўдалося захаваць склад, і, выходзячы з гэтага, замахнуцца на большае, чым месца ў дзесятцы. Дзве перамогі каманда Румбуціса дабыла ў першым крузе. Амбіцыёзнае кіраўніцтва зусім не гэтага чакала ад сезона. Як вынік - праблемы з фінансаваннем, з каманды пайшлі галоўны трэнер і 6 гульцоў асноўнага складу.

### Каманда Кісценя

«Будзем ляпіць з таго, хто застанецца», - такой фразай прымаў клуб экс-старшы трэнер «Маладзечна-2000». Нават аптымісты замахалі рукамі, што такім складам няма чаго рабіць сярод мацнейшых. Новая каманда сваёй гульнёй даказвала адваротнае, на жаль, выніку па-ранейшаму не было.

Безумоўна, Аляксандр Кісцень спадзяваўся на канцоўку чэмпіянату, дзе ўсё вырашыла асабістая сустрэча з канкурэнтам на вылет у Віцебску.

### Варатары

**Віталь Сцепановіч** і **Аляксей Рубацкі** папераменна адгулялі ўвесь сезон. Аляксею, які па сутнасці да пачатку чэмпіянату лічыўся асноўным галкіперам, крыху не пашанцавала. Амаль увесь астатні перыяд чэмпіянату гуляў Сцепановіч. Толькі пашкоджанне, атрыманае ў матчы з брэсцкім «Дынама», не дазволіла капітану дагуляць сезон. Рубацкі ў апошніх паядынках згуляў добра.

### Абаронцы

Страта амаль усёй лініі абароны пасля першага круга вымусілі вар'іраваць склад. На месцы лібера паспрабавалі сябе паўабаронцы **Азаронак** і **Сысой**. Прычым, абодва выглядалі там не горш за Муравейнікава. Бычкоўскі слаба гуляў у апошніх матчах, на яго пазіцыі правага абаронцы **Пятроўскі** (1983 г.н.) дадаваў з кожнай гульнёй. Пасля перавода Сысоя на фланг злева зайграў **Сяргей Дрозд** (1983 г.н.). Сарасек і **Дараховіч** трымалі цэнтр поля ў першым крузе. Фізічныя дадзеныя **Ягора Азявы** (1983 г.н.) дазволілі яму трапіць у асноўны склад на месцы пярэдняга абаронцы.

### Паўабаронцы

Лінія, якая мела амаль два розныя наборы выканаўцаў у кожнага трэнера. Хаця абодва выпускалі тут 5 футбалістаў. Як правіла, гулялі з двума апорнымі. Лепш за іншых спраўляліся Міхалёў, Мігас і Азаронак. Сарасек прыбавіў толькі ў канцы першага круга. **Смірноў** не апраўдаў у поўнай меры спадзяванняў трэнерскага штаба. **Карпіленка** мог гуляць лепш, адсутнасць канкурэнцыі адбівалася на псіхалогіі і фізічнай падрыхтоўцы каманды.

### Нападаючыя

Акуліч правёў толькі адзін матч (супраць "Белшыны") на тым узроўні, якога жадалі трэнеры. Рапецкі ў першым матчы прынёс перамогу. **Макрыцкі** да канца чэмпіянату значна прыбавіў у тэхнічным плане, але фарту, каб забіваць галы, так і не хапае. **Сідарэнка** прапусціў некаторы адрэзак з-за траўмы, пасля чаго вылучаўся няўдрэннай гульнёй і забітымі мячамі.

З гэтага саставу большасць футбалістаў хоча застацца, калі будуць больш-менш спрыяльныя ўмовы для працы. Хаця традыцыйнай барацьбы за выжыванне таксама, магчыма, не пазбегнуць. У гэтым таксама ёсць інтрыга.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

## ВІНШАВАНКІ

З 75-годдзем!
**Зінаідзе Георгіеўне Нелюб**
в. Пералясанка Валожынскага раёна
Дарагая мамачка і бабуля!
Віншуем цябе з днём нараджэння!



Вёснаў праляцела хай нямала,
Скроні пабялелі і маршчынкі праляглі.
З днём нараджэння, дарагая мама,
Найраднейшы чалавек на ўсёй зямлі.
Хай адыдуць прэч хваробы і трывогі,
Просім Бога, каб жыццё бярог,
Каб заўсёды нас прыводзілі дарогі
На родны бацькоўскі парог.
*Дачка, сын, зяць, унукі.*

**Андрэя Смаленскага** з Вілейкі віншуем з днём нараджэння! Жадаем усяго найлепшага: шчасця, здароўя, кахання, удачы і поспехаў. *Твае сябры.*

Віншуем з днём нараджэння **Ганначку Сняжко**! Жадаем выдатных поспехаў у вучобе, моцнага здароўя і ўсяго найлепшага. *Мама, тата і брацік.*

**Сяргея Кульбаку** віншую з днём нараджэння! Жадаю здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту і добрых сяброў. *Надзя.*

Віншуем з 18-годдзем **Віталя Касцецкага** з Мядзела, які вучыцца ў Маладзечне на фельчара-акушэра! Жадаем поспехаў у вучобе, шчасця, здароўя. *Тата, мама.*

Любімую мамачку **Яніну Васільеўну Чэрнік** віншуем з юбілеем! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, даўгалецця і шанцавання. *Дзеці.*

Віншуем з днём нараджэння **Анатолія Філістовіча**! Жадаем шчасця, здароўя, дабра, каб беды, нягоды згарэлі дятла. *Рамановічы.*

Віншуем **Мікалая Мікалаевіча Гапона** з 55-годдзем! Жадаем здароўя і ўсяго найлепшага. *Турклуб "Пілігрым".*

Віншуем з 18-годдзем **Югена Ільюціка**! **Моцнага** здароўя, шчасця, бадзёрасці. *Сям'я Захарычаў.*

Віншуем з 18-годдзем **Веранiку Ганцаль**! Пусть жизнь твоя счастливой будет, удача улыбнуться не забудет. *Захарычы.*

**Наталлю Мікалаеўну Ільюцік** з днём нараджэння! Шчасця, здароўя, кахання, удачы. Будзь шчаслівай! *Валя Захарыч.*

**Наталля Уладзіміраўна Лутава**, любая наша, віншуем цябе з 45-годдзем! Жадаем здароўя, шчасця, усяго лепшага. *Родныя.*

Дарагую дачушку і мамачку **Тамару Страх** віншуем з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця і удачы. *Мама, дачка Марына і Міхаіл.*

Віншуем з днём нараджэння **Сярожу Моніда**! Жадаем шчасця, здароўя, кахання, усяго найлепшага. *Жанна, Пеця, Яна, Артур.*

Віншуем з 25-годдзем **Святлану Жаўняровіч**! Жадаем шчасця, моцнага здароўя, кахання, здзяйснення мараў. *Сяброўкі.*

■ ПАДПІСКА-2003

# Падпішыся і выйграй!

**Вечар пры свечках на дваіх, картачку госця маладзечанскага кафэ "Блюз" і іншыя прызы разыгрываюцца сярод падпісчыкаў на "Рэгіянальную газету" на першае паўгоддзе 2003 года.**
**Падпішыся і выйграй прыз ад "Рэгіянальнай газеты"!**

### З палажэння аб розыгрышы прызоў

**У розыгрышы прызоў удзельнічаюць падпісчыкі, якія даслалі на адрас рэдакцыі ксеракопіі або арыгіналы падпісных абанементаў на 1-ы квартал або 1-е паўгоддзе 2003 года на "Рэгіянальную газету". Падпісчык на 1-ы квартал у розыгрышы прызоў мае адзін голас, падпісчык на 1-е паўгоддзе мае два галасы.**

Ксеракопіі або арыгіналы падпісных абанементаў на 1-ы квартал або 1-е паўгоддзе 2003 года на "Рэгіянальную газету" да ўдзелу ў розыгрышы прызоў прымаюцца да **6 студзеня** ўключна. Розыгрыш прызоў адбудзецца ў кінатэатры "Радзіма" ў прысутнасці і з удзелам чытачоў газеты, работнікаў рэдакцыі, аўтарскага актыву.

Вынікі розыгрышу будуць апублікаваныя ў "Рэгіянальнай газеце".

Прызы выдаюцца па прад'яўленні арыгінала падпіснога абанемента, калі ў рэдакцыю была пададзена копія падпіснога абанемента.

**"Рэгіянальная газета".**



**Вечар пры свечках на дваіх у маладзечанскім кафэ "Блюз" – адзін з прызоў для падпісчыкаў "Рэгіянальнай газеты".** Фота Югена СТЭЛЬМАХА.

**БОЛЬШ** аб'ёму, інфармацыі, **карысці!**




**«Рэгіянальная газета» павялічыла свой аб'ём, стала больш цікавай і інфармацыйна насычанай**

■ ПАПРАЎКА

## Не тыя 2 працэнты

**ВІЛЕЙКА. У мінулым нумары ў матэрыяле "Новы загадчык – з новымі ідэямі" мы напісалі аб стварэнні фонду загадчыка аддзела адукацыі за кошт адлічэння 2% ад зарплаты настаўнікаў.**

У рэдакцыю патэлефанаваў старшыня Вілейскага райкома прафсаюзаў работнікаў адукацыі і навукі **Уладзімір Жук**, які ўдакладніў, што ў новы фонд будуць адлічваць 2%, але не ад зарплаты, а ад прэміяльнага фонду. Прэміяльны фонд складае 20% ад зарплаты, таму сума адлічэнняў настаўнікаў у фонд загадчыка аддзела адукацыі будзе складаць ад зарплаты менш, чым 0,5%.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Рэпертуар на снежань Мінскага абласнога драматычнага тэатра

**Запрашаем з 19 снежня па 10 студзеня на незвычайнае навагодняе шоу для дзяцей і бацькоў. Пачатак у 10.00 і 13.00.**

### ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ

1 нядзеля 17.00 **"На другі дзень Сёмухі"** (сцэнічны жарт у 3-х дзеях на драматургічнай аснове "Прымакоў" Янкі Купалы) Юрый Вута
3 аўторак 19.00 **"Вавілон"** (фантасмагарычная камедыя) Аляксей Дудараў
4 серада 19.00 **"КІМ"** (меладрама ў 2-х дзеях) Аляксей Дудараў
5 чацвер 19.00 **"Апошняя ахвяра"** (меладрама ў 2-х дзеях) Аляксандр Астроўскі
7 субота 17.00 **"Вечар"** (лірычная меладрама) Аляксей Дудараў

**Гастролі тэатра юнага гледача** (Мінск)
10 аўторак 13.00 **"Залатое сэрцайка"** (па матывах казак В.Арлова)
11 серада 19.00 **"Прынц Мамабук"** (камедыя-гратэск у 2-х дзеях) Аляксей Дудараў
13 пятніца 19.00 **"Характары"** (лірычная камедыя) Васіль Шукшын

**Мастацкі кіраўнік – заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Мікалай МАЦКЕВІЧ.**

## Кінатэатр «Радзіма»

### 29 лістапада-1 снежня

Вострасюжэтны баявік **"Ролербол"**, ЗША – у 17.00 і 21.00. 30 лістапада і 1 снежня – у 15.00, 17.00, 21.00. Выкрыццё карупцыі і здрадніцтва – гэта небяспечная гульня, а любая памылка ў ёй – смяротная.

Непрадказальны трылер **"Пароль "Рыба-меч"**, ЗША – у 19.00. Падключайцеся, уводзьце пароль і ўваходзьце ў сістэму кібернетычнага напружання.

### 2-8 снежня

Камедыя **"Жоўты карлік"**, Расія – у 17.00 (у чацвер – ільготны) і 21.00. Можна даведацца пра жанчыну ўсё да канца...

Камедыйны баявік **"Брат Якудзы"**, Японія – у 19.00. Вайна не на жыццё, а на смерць з мафіёзнымі групоўкамі...

### ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

30 лістапада – **"Царства зялёнай паляны"**, Польшча – у 13.00.

1 снежня – **"Баль казак"**, Венгрыя – у 13.00.

2-і паверх, БАР. ДЫСКАТЭКА "Медыум". У 21.00 у пятніцу, суботу і нядзелю – для моладзі. У 17.00 у суботу і нядзелю – для школьнікаў.

Кінатэатр "Радзіма" і дыскатэка "Медыум", Дзед Мароз і Снягурачка запрашаюць на калядныя і навагоднія сустрэчы. Вас чакае святочная навагодняя дыскатэка, гульні, конкурсы, сюрпрызы, салодкі стол. Прымаюцца калектыўныя заяўкі. Кошт з салодкім сталом – 2500 руб.

Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

■ СПРАВЫ СМІ

## БАЖ атрымаў сусветную ўзнагароду

Беларуская асацыяцыя журналістаў атрымала Залатое Пяро Свабоды-2003 Сусветнай асацыяцыі газет. Рашэнне абвясцілі 26 лістапада падчас сустрэчы Рады асацыяцыі ў Маскве.

У заяве, зробленай Сусветнай асацыяцыяй газет з гэтай нагоды, гаворыцца, што за саракагадовую гісторыю існавання Залатога Пяра сёлета - толькі другі выпадак, калі ганаруецца арганізацыя, а не журналіст. Ганараванне БАЖ з'яўляецца прызнаннем намаганняў асацыяцыі ў абароне свабоды слова і правоў журналістаў у Беларусі.

Цырымонія ганаравання запланаваная на чэрвень 2003 года ў Дубліне, падчас Сусветных кангрэсу газет і форуму рэдактараў, а таксама выставы Інфасэрвіс-2003.

Сусветная асацыяцыя газет - міжнародная арганізацыя, якая рэпрэзэнтуе 18 тысяч газет, яе сябрамі з'яўляюцца 71 газетная асацыяцыя і кіраўнікі газет у 100 краінах, а таксама 13 інфармацыйных газет і 9 рэгіянальных і міжнародных медыйных арганізацый. З 1961 года Залатое пяро з'яўляецца штогадовай узнагародай Сусветнай асацыяцыі ў галіне свабоды прэсы. У 2002 годзе яго атрымаў Джэфры Н'ярота з Зімбабвэ.

**Прэс-служба ГА «БАЖ».**

■ ІМЯНІНЫ

**29 лістапада**
**Праваслаўныя**: Мацвея, Сцяпана.
**Каталіцкія**: Блажэя, Сатурніна.

**30 лістапада**
**Праваслаўныя**: Лазара, Нікана, Рыгора.
**Каталіцкія**: Юстыны, Андрэя, Людаслава.

**2 снежня**
**Праваслаўныя**: Андрыяна, Аўдзея, Іліядора.
**Каталіцкія**: першы тыдзень Адвенту, Бальбіны, Біянкі, Паўліны.

**3 снежня**
**Праваслаўныя**: Ганны, Фёклы, Анатоля, Астапа, Іпата, Ісака, Рыгора.
**Каталіцкія**: Ксавера, Францішка.

**4 снежня**
**Праваслаўныя**: УВОДЗІНЫ (Увядзенне ў храм Божай Маці).
**Каталіцкія**: Барбары, Бярнарда, Яна.

**5 снежня**
**Праваслаўныя**: Архіпа, Валяр'яна, Максіма, Пракопа, Пятра, Філімона, Ярапалка.
**Каталіцкія**: Крыстыны.

## Купон 48 Рэгіянальная газета

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

### Звярніце ўвагу

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!**
**Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**



## ЗНАЁМСТВЫ

Мужчына сярэдніх год без жыллёвых праблем пазнаёміцца з жанчынай для сумеснага жыцця. 222410, Вілейка-4, п/п МС 0250234.

Для сур'ёзных адносін пазнаёмлюся з жанчынай да 40 год. Маладзечна-3, ВН №741398.

Прыемная жанчына пазнаёміцца з мужчынам 50-60 год для сур'ёзных адносін. Маладзечна-6, п/п МС 0535633.

